КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 31 (303) ◂ 17 жніўня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**БАРЫС ЗВОЗСКАЎ**

Стар. 6

**ІДЗЁМ НА ЎСХОД**

Гарачае лета беларускай знешняй палітыкі абяцае знайсці працяг восенню

Стар. 5

**НОВАЯ IRA**

Працаўнікі міру ў Паўночнай Ірландыі заявілі пра адраджэнне структур легендарнай Ірландскай Рэспубліканскай Арміі

Стар. 12

**МАСТАЦКІ КОД ПРЫСУТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ДЗВЕ ДЭКЛАРАЦЫІ**

Нарыс Сяргея Нікалюка

▸ **З НАГОДЫ**

# ПРЫВІД ХОДЗІЦЬ ПА КРАІНЕ

Вольга ХВОІН

**Выбары — як фантом. Ролі размеркаваныя, удзельнікі кампаніі робяць выгляд, што ўсім усё зразумела, а вынік традыцыйна прадказальны. Амаль як у часы СССР, хіба што асобныя таварышы яшчэ спрабуюць каламуціць ваду. Але «несвядомыя элементы» надвор'я не робяць.**




Ужо ў верасні краіна будзе абіраць парламентарыяў. Электаральная кампанія пакуль праходзіць без надзвычайных здарэнняў. Сфармаваныя ўчастковыя выбарчыя камісіі. У іх складзе прадстаўнікоў апазіцыйных партый — каля 0,1% (61 чалавек з 68 945), яны прадстаўленыя менш чым у 1% камісій. «Гэта выключае апанентаў улады з арганізацыі галасавання і падліку галасоў і такім чынам пазбаўляе магчымасці ўплываць на працу ўчастковых выбарчых камісій», — пішуць традыцыйнае заключэнне аўтары справаздачы «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

«Гэты этап павінен быў паказаць, ці сапраўды тое, што заяўляецца з высокіх трыбун, у прыватнасці Аляксандрам Лукашэнкам і Лідзіяй Ярмошынай, іншымі высокімі чыноўнікамі, пра тое, што яны збіраюцца правесці звышдэмакратычныя і празрыстыя выбары. Фармаванне камісій павінна было даказаць гэта або абвергнуць», — адзначае кіраўнік партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін. І рэзюмуе, што актывісты кампаніі «За справядлівыя выбары», «вымушаныя канстатаваць, што камісіі, як і раней, фармуюцца з прадстаўнікоў праўладных структур, і фармуюцца па карпаратыўным прынцыпе».

Паказальная рэакцыя людзей на парламенцкія выбары, калі верыць вынікам чэрвеньскага нацыянальнага апытання НІСЭПД. Так, на пытанне «Ці будуць гэтыя выбары свабоднымі і справядлівымі?» адмоўна адказалі 39,6% рэспандэнтаў. Больш за палову апытаных — 54,5% — заявілі, што вынікі выбараў не залежаць ад іх голасу, яшчэ 46,2% рэспандэнтаў мяркуюць, што новаабраная Палата прадстаўнікоў не будзе адлюстроўваць інтарэсы грамадства. І фінальны акорд: «Беларусь мае патрэбу ў пераменах» — так думаюць 77,3% апытаных. Атрымліваецца, беларусы ўжо саспелі і хочуць перамен, але не з іх удзелам. «Хай бы новае прыйшло само, а я чалавек маленькі, ні на што не ўплываю», — відаць, такая ментальная пазіцыя нашых суайчыннікаў.

Разам з тым тысячы «маленькіх чалавечкаў» маюць непасрэднае дачыненне да працэсаў тармажэння. Цікавую інфармацыю пад арыгінальнай шыльдай прэзентавала грамадзянская кампанія «Гавары праўду!». Эксперты прааналізавалі персанальны склад выбарчых камісій усіх узроўняў, якія дзейнічалі ў апошніх пяці электаральных кампаніях, пачынаючы з прэзідэнцкіх выбараў 2006 года і заканчваючы бягучымі парламенцкімі гэтага года. «Салдаты Лідзіі Ярмошынай» — назвалі аўтары справаздачы 126 333 асобы, якія ўваходзілі ў склад выбарчых камісій. Большасць з іх выключалася ў камісіі ад чатырох арганізацый: БРСМ, РГА «Белая Русь», прафсаюзаў і ўстаноў адукацыі. З адкрытай інфармацыі атрымалася зрабіць высновы, што адны і тыя ж людзі па тры-пяць разоў працавалі ва ўчастковых камісіях. З пяці апошніх выбарчых кампаній у трох у якасці члена ўчастковай камісіі працавала 11,6% ад іх агульнага складу, у чатырох кампаніях — 4,7%, ва ўсіх пяці — 1,01%.

У час выбарчай кампаніі адладжанай дзяржаўнай сістэме апаненты супрацьпастаўляюць асвету — нешматлікая армія адважных (а пасля прэзідэнцкай кампаніі 2010 года ў выбарах удзельнічаюць толькі людзі смелыя) хоча давесці да насельніцтва, што выбары несапраўдныя, што альтэрнатыва заўсёды ёсць.

Так, Аб'ядналая грамадзянская партыя вылучыла 48 «спікераў» — людзей, якія ідуць у народ з пасланнем: «Лукашэнка — гэта тупік! Выхад з тупіку — сумленныя выбары, за якія трэба змагацца. І першы крок да справядлівых выбараў — гэта байкот несумленных. Байкот таго фарсу, які разыгрывае ўлада». Пасля гэтага 15 верасня ўсе спікеры АГП здымаюцца і не ўдзельнічаюць у «выбарах», якія праводзяцца па сцэнары ўладаў. Пайшлі да людзей з альтэрнатыўнай інфармацыяй прадстаўнікі руху «За свабоду», партыі БНФ... Праўда, аптымізмам пасля сустрэч з людзьмі не кожны дзеліцца.

«Людзі ні ў што не вераць. Каб паставілі подпіс за вылучэнне кандыдата, трэба ўгаворваць. Але пазітыўна настроеныя, калі сам кандыдат ходзіць па кватэрах, — распавядае Канстанцін Анташкевіч, які вылучаецца ў кандыдаты ў дэпутаты ў Оршы. — Некаторыя па месцы працы паставілі подпіс за праўладнага кандыдата — старшыню гарсавета, і больш ні за каго не ставяць. Агульны настрой такі — многія нават не ведаюць, што будуць выбары, людзі аддаляюцца ад палітычных кампаній, асабліва гэта тычыцца выбарцаў сярэдняга ўзросту. Проста не бачаць сэнсу ў гэтых выбарах».

Частка апазіцыі абрала няўдзел у выбарах, назваўшы гэта байкотам. Толькі па сутнасці гэты байкот з-за спрадвечнай раз'яднанасці і, як вынік, сваёй няўдачнасці стаў нават менш эфектыўным за намінальны ўдзел. Байкот выбараў, як і выбары, — усяго толькі прывід. Быццам бы ёсць, а насамрэч няма.

Атрымліваецца, што восеньскія выбары — гэта маленькая нагода нагадаць — «курылка жывы», у сэнсе ёсць яшчэ іншадумства. Толькі з улікам колькасці «жывых» і зацікаўленых у падобнай інфармацыі дзеянне становіцца ўсё больш бессэнсоўным. Блізка момант, калі ў мэтах ашчаджэння дзяржаўнага бюджэту выбары можна будзе адмяніць. Ад рудыментаў прынята пазбаўляцца.

## ВЫБАРЫ

### МАГІЛЁЎ. КДБ УМЕШВАЕЦЦА Ў ПРАЦЭС

14 жніўня да Уладзіслава Ярашова, які збірае подпісы ў падтрымку дэмакратычнага кандыдата ад Руху «За свабоду» Уладзіміра Пунчанку, завітаў супрацоўнік КДБ.

Малады супрацоўнік КДБ знянацку фактычна ўламіўся ў кватэру Ярашова, каб паразмаўляць пра справы дзяржаўнай бяспекі. Ён спрабаваў даведацца пра тое, колькі плацяць за збор подпісаў, хто кіруе і арганізоўвае гэты працэс.

Малады супрацоўнік КДБ спрабаваў дазнацца ў студэнта, які яшчэ не да канца прачнуся, пра тое, колькі плацяць за подпісы, хто кіруе і арганізоўвае гэты працэс.

Супрацоўнік КДБ пагражаў Уладзіславу, які з'яўляецца студэнтам-эканамістам Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Куляшова, адлічэннем з вучобы за ягоную працу ў камандзе апазіцыйнага кандыдата, а таксама прапаноўваў супрацоўніцтва з КДБ.

Праз 20 хвілін размовы візіцёр, які так і не прадставіўся, пакінуў кватэру актывіста.

### ГЛЫБОКАЕ. ПРАКУРАТУРА ШУКАЕ ЯРАСЛАВА БЕРНІКОВІЧА

Найвераг однейшая прычына выкліку Ярослава да пракурораў — гэта запіс на старонцы ў Фэйсбуку з прапановай дапамагчы прыхільнікам байкоту парламенцкіх выбараў.

З гэтай нагоды ў пракуратуры ўжо дапыталі журналіста Кастуся Шыталя, які распавёў пра ініцыятыву Берніковіча на незалежным рэгіянальным сайце westki.info.

Позву для Ярослава Берніковіча прынеслі ў офіс яго прыватнай фірмы «Прэфект-інфо», але супрацоўнікі адмовіліся яе ўзяць у паштаркі. Сам актывіст — у ад'ездзе, і яго каментар праз тэлефонны роўмінг быў кароткі: «Я мяркую, гэта ўсё наконт майго допісу пра дапамогу прыхільнікам байкоту выбараў. Яшчэ 26 ліпеня я напісаў у Фэйсбуку, што сам у байкот выбараў па ўсёй Беларусі не веру, таму збіраюся балатавацца па Наваполацкай выбарчай акрузе №25. Але гатовы дапамагчы, калі хто з прыхільнікаў гэтай ідэі возьмецца правесці кампанію байкоту ў Докшыцкай выбарчай акрузе №30, дзе я жыву. Я напісаў, што таму, хто ад словаў пра байкот гатовы перайсці да справы, дам магчымасць карыстацца маім офісам на час агітацыйнай кампаніі і ўсёй наяўнай аргтэхнікай. Ахвотных, праўда, пакуль не было чуваць».

Першай, калі не лічыць каментар на старонцы Ярослава Берніковіча ў Фэйсбуку, адгукнулася пракуратура. 13 жніўня туды быў выкліканы незалежны журналіст Кастусь Шыталь, які напісаў артыкул пра ініцыятыву мясцовага актывіста кампаніі «Гавары праўду!». Хлопец адмовіўся даваць паказанні і быў вусна папярэджаны пра недапушчальнасць падобных публікацый.

### ПОЛАЦК. ЗБОР ПОДПІСАЎ НА ПРАЦОЎНЫХ МЕСЦАХ ЗАКОННЫ

Назіральнік Юрый Бельскі падчас кампаніі па зборы подпісаў двойчы пісаў заявы ў пракуратуру Полацка пра выяўленыя ім факты парушэння выбарчага заканадаўства.

У абодвух выпадках сябры ініцыятыўнай групы Наталлі Гуйвік, з'яўляючыся кіраўнікамі, збіралі подпісы падначаленых у падтрымку свайго кандыдата ў працоўны час.

Аднак полацкая пракуратура адказала назіральніку, што паведамленыя ім факты не знайшлі пацверджання, а ўдзел кіраўнікоў любога ўзроўню ў ініцыятыўнай групе ніяк не супярэчыць Выбарчаму кодэксу. Збор подпісаў дадзеныя асобы, па словах пракуратуры, ажыццяўляюць як сябры ініцыятыўнай групы, а не як кіраўнікі. Праўда, не зусім зразумела, чаму дадзеная працэдура праводзілася менавіта па месцы працы сябраў ініцыятыўнай групы, што можа лёгка пацвердзіць аналіз здадзеных імі падпісных лістоў.

Ініцыятыўная група праўладнага кандыдата Наталлі Гуйвік складалася больш чым з 70 чалавек, у асноўным кіраўнікоў сярэдняга звяна, і здала на праверку ў акруговую камісію больш за тры з паловай тысячы подпісаў выбаршчыкаў.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

## ▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПРАВААБАРОНЦЫ ПАРУЧЫЛІСЯ ЗА СУРАПІНА І БАШАРЫМАВА

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» далучыўся да ініцыятывы ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» па змене меры стрымання для журналіста Антона Сурапіна, які з 13 ліпеня знаходзіцца ў СІЗА КДБ.**

Праваабаронцы таксама хадайнічаюць аб змене меры стрымання ў дачыненні да рыэлтара Сяргея Башарымава, якому разам з Сурапіным прад'яўлена абвінавачванне ў спрыянні незаконнаму перасячэнню дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь (ч. 6 арт. 16 і ч. 3 арт. 371 КК), і вызваленні іх абодвух з-пад варты пад асабістае паручальніцтва.

Паводле Крымінальнага кодэкса Беларусі, паручальніцтва за зняволенага могуць даць двое ці болей раней не судзімых грамадзян краіны, якія «заслугоўваюць даверу». У сувязі з гэтым праваабаронцы прапануюць усім неабыякавым грамадзянам таксама падпісаць адпаведныя паручальніцтвы і накіраваць іх на адрас: КДБ Беларусі (г. Мінск, пр. Незалежнасці, 17).

Нагадаем, 6 ліпеня 2012 года быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА КДБ Сяргей Башарымаў, а 13 ліпеня 2012 года — фатограф Антон Сурапін. 16 і 23 ліпеня адпаведна ім было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 3 арт. 371 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь». Такім чынам КДБ Беларусі расцаніла размяшчэнне Антонам Сурапіным фотаздымкаў меркаванага палёту шведскага самалёта ў беларускай паветранай прасторы. Яшчэ больш абсурднымі выглядаюць абвінавачванні Сяргея Башарымава, які здаваў у арэнду кватэру грамадзянам Швецыі, у спрыянні пераходу дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае затрыманне і ўзяцце пад варту грамадзян Антона Сурапіна і Сяргея Башарымава як эскалацыю страху ў грамадстве і спробу перакласці адказнасць за неналежную ахову дзяржаўнай мяжы і паветранай прасторы краіны на звычайных грамадзян.

Паручальніцтвы па змене меры стрымання для журналіста Антона Сурапіна і рыэлтара Сяргея Башарымава на гэты час падрыхтавалі намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч, сябры Рады «Вясны» Таццяна Равяка і Уладзімір Лабковіч.

**spring96.org**

## ▸ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# НА ВЫБАРЫ — З «НАРОДНАЙ ПРАГРАМАЙ»

**Генадзь КЕСНЕР**




**Многія прадстаўнікі дэмакратычных структур, якія збіраюцца да канца ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, будуць карыстацца распрацаванай дзясяткамі незалежных экспертаў так званай «Народнай праграмай». Пра гэта некаторыя складальнікі праграмы паведамілі на прэзентацыі, якая прайшла 15 жніўня ў офісе Руху «За свабоду».**

У прэзентацыі ўзялі ўдзел экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Навасяд, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, эканаміст Сяргей Чалы, палітолаг Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч. «Народная праграма» складаецца з пяці раздзелаў — «Парламент сёння і заўтра», «Народная эканоміка», «Народная сацыяльная палітыка», «Свабода слова. Свабода інфармацыі» і «Геапалітыка».

Па словах аўтараў, «Народная праграма» — гэта ініцыятыва па выпрацоўцы новага пазітыўнага бачання будучыні Беларусі з дапамогай экспертнага і шырокага грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця нашай краіны. Да падрыхтоўкі «Народнай праграмы» далучыліся каля сарака экспертаў — практыкаў і навукоўцаў. У ёй прапануюцца тэзы і контртэзы па праблемах у розных галінах — у эканоміцы, палітыцы, сацыяльным забеспячэнні, медыцыне, сельскай гаспадарцы, побыце і гэтак далей.

«Значная колькасць апазіцыйных актывістаў лічыць неабходным выкарыстаць працэс агітацыйнай кампаніі для камунікацыі са сваімі выбаршчыкамі. І кампанія «Народная праграма» гатова прапанаваць ім свае напрацоўкі, свае ідэі для публікацыі ў мясцовых сродках масавай інфармацыі, для выступаў па радыё і тэлебачанні, для выкарыстання ва ўлётках, у іншай друкаванай прадукцыі, якая будзе распаўсюджвацца падчас этапу агітацыі», — адзначыў Юрась Губарэвіч. Паводле яго словаў, сёння існуе дамоўленасць аб выкарыстанні падчас агітацыі «Народнай праграмы» з пяццюдзесяццю чатырма як партыйнымі, гэтак і незалежнымі прэтэндэнтамі на кандыдата ў дэпутаты.

«Дэмакратычныя выбары робяць дэмакратычныя кандыдаты, яны павінны даць народу альтэрнатыву. Гэтая альтэрнатыва заключаецца ў тым ліку і ў тых дакументах, якія яны будуць прапаноўваць выбаршчыкам, — падкрэсліў Уладзімір Навасяд, які сам бярэ ўдзел у сёлетняй парламенцкай кампаніі. — «Народная праграма» з'яўляецца «дарожнай мапай», якая не скончыцца з выбарамі. Гэта вельмі добрыя «зарысы мясцовасці», падрыхтаваныя грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Гэтыя прапановы, незалежна ад вынікаў выбарчай кампаніі, мусяць знайсці сваё адлюстраванне ў заканадаўчых актах, яны павінны быць перададзены ў адпаведныя органы для таго, каб паказаць патэнцыял беларускай дэмакратыі, для таго, каб наша навуковая супольнасць магла ўплываць на тое ці іншае развіццё сітуацыі ў нашай краіне».

Як адзначыў палітолаг Алесь Лагвінец, кампанія па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты паказала, што ў Беларусі існуе вялікая праблема публічнай дыскусіі. Альбо, калі такая дыскусія нават і існуе, то яе ўзровень вельмі нізкі. «І мы спрабуем зрабіць так, каб «Народная праграма» — наша пляцоўка — была адкрытая для ўсіх, адкрытая для шырокай дыскусіі. Новае, што з'явілася ў цяперашняй версіі «Народнай праграмы» (яна існуе ўжо тры год, а паўстала на інтэрнэт-пляцоўцы Руху «За свабоду» яшчэ падчас падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2010 года — Г. К.) — гэта тое, што мы хочам прадстаўляць больш розныя погляды. Мы зрабілі віртуальнае запрашэнне прадстаўнікам улады і мы выстаўляем на нашым сайце меркаванні ўрадавых экспертаў. У нас ёсць і свае эксперты, так што людзі, якія зарэгіструюцца на нашым сайце, змогуць каментаваць узніклую дыскусію».

## ▸ КАМПАНІЯ

# ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ АНТОНА СУРАПІНА

**Ужо некалькі дзён ідзе кампанія збору подпісаў за вызваленне зняволенага фатографа.**

Сябры ГА «БАЖ», а таксама проста неабыякавыя людзі звяртаюцца ў КДБ і Пракуратуру Беларусі з патрабаваннем вызваліць журналіста.

Толькі за суткі правядзення кампаніі на заклік ГА «БАЖ» адгукнуліся дзясяткі людзей у Мінску і рэгіёнах, а таксама за межамі Беларусі. Нагадаем, што бланк для збору подпісаў за вызваленне Антона Сурапіна размешчаны на сайце Беларускай асацыяцыі журналістаў, а запоўненыя аркушы неабходна перадаваць заказной поштай у офіс ГА «БАЖ» (Мінск, вул. Камсамольская, 7-32).

Пакінуць подпіс за Антона Сурапіна можна і ў офісе арганізацыі з 10 да 18 гадзін. У сераду, 15 жніўня, гэтай магчымасцю скарысталася лідар незалежнага аб'яднання беларускіх пенсіянераў Таццяна Зялко.

Апроч яе свой подпіс у падтрымку Антона Сурапіна ў офісе аб'яднання паставілі дырэктар выдавецкага дома «Intex-press» Уладзімір Янукевіч і намеснік галоўнага рэдактара газеты «Intex-press» Анжэла Белуш.

ГА «БАЖ» просіць усіх салідарных з Антонам Сурапіным далучыцца да кампаніі!

**Прэс-служба ГА «БАЖ»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# НЕБЯСПЕЧНА ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Наша эканоміка развіваецца сямімільнымі крокамі і мае спадзеў развівацца надалей з дапамогай Расіі. Але некаторыя зайздроснікі ўвесь час імкнуцца спыніць гэты хуткі бег у светлую будучыню. Але мы і, пэўна, нашы нашчадкі не дадзім ажыццявіць ім свае злачынныя планы. Нешта кшталту такога кажа кіраўнік краіны будучым пакаленням.**




Усе прызвычаіліся да паслання прэзідэнта народу і парламенту. На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка перакрочыў новую мяжу ў сваіх прагнозных прамовах. Гэтым разам ён пацвердзіў, што АЭС у Беларусі збудавана будзе, і патлумачыў нашчадкам, навошта. 9 жніўня Лукашэнка заклаў капсулу з пасланнем наступным пакаленням на пляцоўцы будаўніцтва АЭС у Астравецкім раёне.

У пасланні за подпісам Лукашэнкі гаворыцца, што «стварэнне нацыянальнай ядзернай энергетыкі — значны крок ва ўмацаванні энергетычнай бяспекі краіны, магутны стымул паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу і інавацыйнага развіцця». «Увасабляючы ў жыццё дэвіз аб пабудове моцнай і квітнеючай Беларусі — дзяржавы для народа, мы пачынаем рэалізацыю найбуйнейшага сумеснага з братэрскай Расіяй інвестыцыйнага праекта — будаўніцтва першай атамнай электрастанцыі на нашай тэрыторыі», — напісаў Лукашэнка.

Тут узнікае некалькі пытанняў. Самае бяскрыўднае з іх: а што, калі станцыю ўсё ж такі не пабудуюць? Што будуць рабіць нашы нашчадкі без «паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу і інавацыйнага развіцця»? Вельмі пакрыўдзяцца, напэўна.

Усім вядома, што сярэдні разлічаны тэрмін дзеяння станцыі — прыкладна сорак гадоў. Ну, дакінем яшчэ год 10 на пабудову аб'екта. Не выключана, што са спыненнем станцыі вымаць пасланне нашчадкам будуць тыя, хто ўжо зараз глядзяць на яе пабудову. І выдатна ўсведамляюць, які вынік будзе потым. Не выключана таксама, што капсулу з пасланнем нашчадкам увогуле ніхто ўскрываць не будзе — бо ў выніку працы станцыі яна будзе так «фаніць», што яе захаваюць тым нашчадкам, якія будуць тут жыць праз 250 000 гадоў. Пахаваюць разам з іншымі радыеактыўнымі адкідамі.

У сувязі з гэтым больш сумленным падаецца альтэрнатыўны тэкст паслання, які прапанавалі беларускія экалагі і партыя «Зялёныя». «Мы пачалі гэтую будоўлю, дакладна разумеючы, што ў нас няма ні сродкаў, ні тэхналогій для ўтылізацыі Астравецкай атамнай электрастанцыі, захоўвання і ізаляцыі ад навакольнага асяроддзя на працягу 240 тысяч гадоў яе адпрацаванага ядзернага паліва, — гаворыцца ў альтэрнатыўным пасланні. — Мы разумелі, што вам аддаваць 10-мільярдны крэдыт, які мы ўзялі для будаўніцтва гэтай электрастанцыі. Кожны грамадзянін Беларусі — наш сучаснік — ужо быў вінаваты 1000 долараў ЗША Расіі за гэтую АЭС. Мы ведалі таксама і пра тое, што вам запатрабуецца шмат сродкаў на лячэнне хвароб, якіх стане больш дзякуючы гэтай АЭС».

Аўтары настойваюць на абвяшчэнні сапраўдных прычын будаўніцтва: «Мы ведалі пра тое, што вы не будзеце адчуваць недахопу ў электраэнергіі і без гэтай небяспечнай крыніцы. Мы прыдумалі гэтую хлуслівую падставу, як і парадаксальную мэту — павышэнне энерганезалежнасці нашай краіны за кошт расійскай АЭС. На самай жа справе нам патрэбны былі грошы і ўлада. І для дасягнення гэтых мэтаў мы не хацелі адмовіцца ні ад чаго».

Але не толькі энергетыкай клапаціласся кіраўніцтва краіны мінулым тыднем. У нас ёсць больш актуальныя праблемы. Як і кожную восень, у нас — бойка за ўраджай. Менавіта бойка — змаганнем гэта назваць цяжка.

Час эксперыментаў і выбару стратэгіі развіцця сельскагаспадарчай галіны Беларусі прайшоў — надышоў час спытаць за працу, і спытаюць з кадраў максімальна ўзмоцнена, заявіў Аляксандр Лукашэнка 7 жніўня на селектарнай нарадзе па пытаннях уборкі ўраджаю.

Паводле яго слоў, неабходнасць правядзення селектарнай нарады выклікана некалькімі прычынамі, у ліку якіх — недастатковыя тэмпы, якасць уборачных работ і залішняя самазаспакоенасць кіраўнікоў на месцах. «Адна з мэтаў сённяшняй нарады — ускалыхнуць людзей, падштурхнуць дынамізм у працы ўсяго ўборачнага канвеера, не дапусціць страты ўраджаю. Зараз неабходна максімальна напяцца ўсім і ўбраць з поля хлеб, не расцягваючы ўборку на паўтара, а то і два месяцы, як гэта звычайна бывае», — прыводзяць словы кіраўніка дзяржавы яго прэс-служба.

А тое без яго не ведалі сяляне, што «летні дзень год корміць». Здаецца, штуршкі і поўхі не вельмі спрыяюць тэмпам і якасці ўборачных работ. Асабліва, калі гаспадар замест таго, каб працаваць на сваім месцы, чатыры-пяць гадзін сядзіць на селектарнай нарадзе і перамолвае не жыта, а лозунгі і пажаданні.

Ад гэтага якасці не дабавіцца. Да таго ж, сёй-той усё жадае падкасіць нашу сельскую гаспадарку і харчовую бяспеку. Літоўскія дзяржаўныя інспектары па харчаванні праводзяць расследаванне датычна беларускай солі, у якой выяўлены невядомыя таблеткі. Жыхарка Бірштанаса набыла беларускую соль і выкарыстала яе для гатавання ежы. Соль выклікала ў жанчыны падазрэнні, таму што ўсе стравы, запраўленыя ёю, набывалі саладкаваты смак. А хутка жанчына, яе муж з абмежаванай дзеяздольнасцю і сябар сям'і, які быў у гасцях, захварэлі.

Падазрэнні, што з соллю нешта не так, пацвердзіліся, калі надышоў час папоўніць сальніцу. У пакецику з соллю гаспадыня знайшла таблеткі няяснага паходжання і нейкія дадатковыя прымесі.

Можа, таблеткі ёй падсунулі ворагі? Але ж што рабіць з іншымі прадуктамі?

Сайт Дзяржаўнай ветэрынарнай і фітасанітарнай службы Украіны паведаміў, што распараджэннем галоўнага дзяржаўнага інспектара ветэрынарнай медыцыны прыпынены ўвоз у краіну ўсіх прадуктаў жывёльнага паходжання вытворчасці ААТ «Беллакт». «Паводле вынікаў даследаванняў, праведзеных Дзяржаўным навукова-даследчым інстытутам па лабараторнай дыягностыцы і ветэрынарна-санітарнай экспертызе, выяўлена, што сухая малочная сумесь для дзіцячага харчавання «Беллакт Біфіда 2» не адпавядае мікрабіялагічным паказчыкам, бо ўтрымлівае цвіль», — гаворыцца ў паведамленні.

Не адстала і Расія. Россельгаснагляд у выніку лабараторнага аналізу выявіў у партыі варанай каўбасы, у трох партыях гатовай прадукцыі са свініны, што паступіла з Беларусі, мезафільныя аэробныя і факультатыўна-анаэробныя мікраарганізмы. У сувязі з гэтым Россельгаснагляд звярнуўся з просьбай да Дзяржаўнай ветэрынарнай службы Беларусі прыняць меры па забеспячэнні выпуску Віцебскай бройлернай птушкафабрыкай, Магілёўскім мясакамбінатам і ЗП «Глобал-Віцебск» прадукцыі, якая поўнасцю адпавядае патрабаванням Мытнага саюза.

Ладна, літоўцы, рускія і ўкраінцы. Тут жа самому атруціцца можна!

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### НАДЗЕЯ АСТАПЧУК



Чэмпіёнка лонданскай Алімпіяды ў штурханні ядра беларуска Надзея Астапчук дыскваліфікаваная Міжнародным алімпійскім камітэтам (МАК) за ўжыванне допінгу. Залаты медаль у спартоўкі забралі. Разам з тым Надзея заявіла, што не ведае, як у яе арганізм мог патрапіць забаронены прэпарат метэналон.

«Не ўяўляю, як гэта магло адбыцца. Мне патлумачылі, што падобны прэпарат выводзіцца па паўгода. Я здавала 18 пробаў, і ні адна з іх не паказала раней наяўнасць гэтага прэпарата. І менавіта на Алімпіядзе пробы паказваюць яго! Не разумею, адкуль гэта магло ўзяцца. Я не падобная на ідыёта, які едзе на Гульні і прымае такі прэпарат, які ў любым выпадку ловіцца! Тупасць... Мяне трасе кантроль кожны месяц, кожны тыдзень», — сказала спартсменка БелаПАН праз паўтары гадзіны пасля з'яўлення інфармацыі аб дыскваліфікацыі.

Па словах Астапчук, яна мае намер старанна ва ўсім разабрацца і змагацца за свой медаль: «Мне галоўнае цяпер ачысціць сваю рэпутацыю. Я столькі гадоў выступаю, і ніколі ніякіх прэтэнзій не было. І зараз на галоўным старце, і яшчэ пасля золата... Я не разумею...»

### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ



Віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесю Бяляцкаму, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі ў Бабруйску, забароненыя спатканні са сваякамі. Раней, калі Бяляцкі быў прызнаны «злосным парушальнікам рэжыму», яго пазбавілі доўгатэрміновага спаткання з роднымі, запланаванага на верасень.

«Цяпер яму напісалі яшчэ два парушэнні рэжыму: за тое, што ён завешвае сваё спальнае месца ў калоніі, і за тое, што выносіў прадукты са сталовай — нёс лусту хлеба з вячэры. У выніку Алеся пазбавілі і кароткатэрміновага спаткання, якое павінна было адбыцца пасля 15 жніўня», — распавёў БелаПАН праваабаронца Валянцін Стэфановіч. За гэтыя парушэнні зняволены Бяляцкі быў пазбаўлены прадуктовай перадачы.

Алеся Бяляцкага летась прызналі вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прысудзілі да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала наяўнасць у яго замежных рахункаў у банках Літвы і Польшчы. Суд не прыняў да ўвагі той факт, што грошы, якія паступаюць на гэтыя рахункі, выкарыстоўваліся для дзейнасці зачыненага ў Беларусі праваабарончага цэнтра «Вясна». Таксама суд не прыняў да ўвагі тое, што шкода, якую нібыта нанёс Бяляцкі, была цалкам кампенсавана за кошт добраахвотных ахвяраванняў грамадзян. Беларускі праваабаронца прызнаны вязнем сумлення.

### ГЕОРГІЙ КАНДРАЦЬЕЎ




Працягваецца падвядзенне алімпійскіх вынікаў. «Стрэмка ў сэрцы засталася», — так апісаў свае ўражанні ад удзелу ў алімпійскім футбольным турніры галоўны трэнер беларускай зборнай Георгій Кандрацьеў.

«Мы хацелі выйсці з групы, — сказаў ён на прэс-канферэнцыі 13 жніўня ў Мінску. — Мы разумелі: калі выйдзем, то зробім вялікую справу для Беларусі, самае высокае кіраўніцтва павярнулася б тварам да футбола. Мы ехалі не проста грошы зарабіць, а нешта зрабіць для краіны. Ведаю, што цяпер шмат негатыву выказваецца, але, спадзяюся, калі эмоцыі ўлягуцца, будзе ацэнена тое, чаго дамогся футбол у апошні час, і да яго будзе больш лаяльнае стаўленне».

Калі Беларусь зможа выйсці ў фінальную стадыю чэмпіянату свету ці Еўропы? «Трэба імкнуцца, працаваць. Я выйшаў на поле «Нотынгем Форэст» і забалела сэрца. Травінка да травінкі. Мы адсталі ад Еўропы настолькі, што не ведаю нават, ці дагонім», — мяркуе Кандрацьеў.

Трэнер крытычна выказаўся наконт практыкі пастаноўкі перад спартсменамі імгненных задач: «Дваццаць гадоў ставім, а ўсё адно чацвёртыя-пятыя месцы займаем. Тыя ж армяне пакуль не патрабуюць выніку, і ў гэтым адборачным цыкле яны могуць змагацца за выхад на чэмпіянат свету. Няправільна здымаць трэнера пасля кожнай гульні. Прыклад — мінскае «Дынама». Колькі трэнераў памянялася, а толку? Так, мы будзем у кожнай адборачнай гульні чэмпіянату свету змагацца да канца, але нерэальна выйсці з групы, калі ёсць Францыя і Іспанія. Нават калі захочам, ніхто не пусціць, бо ёсць іншыя фактары. Вось кажуць: Кандрацьеў страхуецца, робячы такія заявы. Я не страхуюся, я кажу, як ёсць. Ад «давай-давай» нічога не зрушыцца».

▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# ДВА ПОГЛЯДЫ НА ПЕРСПЕКТЫВУ ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ

Сяргей НІКАЛЮК

**Нафтагазавыя прэферэнцыі Расіі могуць падтрымаць беларускую эканоміку, аднак не ў стане забяспечыць яе ўстойлівае развіццё.**

Чарговую «Азбуку паліталогіі» я б хацеў пачаць з выказвання нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта: «Дынаміка сацыяльнага ладу — гэта дынаміка сацыяльных зменаў, а не дынаміка прагрэсу». Напэўна, самым важным элементам дынамікі для беларусаў на працягу трох тэрмінаў адзінага палітыка (АП) быў рост даходаў. Аднак, на жаль, чакаць працягу такой прыемнай ва ўсіх адносінах з'явы не даводзіцца. А гэта значыць, што Беларусь распачынае новы этап свайго развіцця. Але ў слова «развіццё» не варта ўкладаць станоўчы сэнс. Яно можа апынуцца і сінонімам слова «дэградацыя».

10 ліпеня ў Мінску адбылася прэзентацыя Краінавага эканамічнага мемарандума для Рэспублікі Беларусь «Эканамічная трансфармацыя для росту», які падрыхтаваў Сусветны банк. Дакумент выключна эканамічны. Словы з коранем «грамадск» сустракаюцца ў ім толькі ў словазлучэнні «грамадскае харчаванне». Такі ж лёс напаткаў і словы з коранем «палітык»: «эканамічная палітыка», «палітыка канкурэнцыі» і інш.

Аднак эканоміка па-за межамі палітыкі — нонсенс. Прырода міждысцыплінарная, таму ўсе межы паміж эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай сферамі — умоўныя.

Асноўную думку мемарандума цудоўна адлюстроўвае наступная цытата: «Існуючая мадэль дасягнула сваіх межаў і не можа забяспечыць устойлівы рост пры адсутнасці структурных рэформ». Але ж там, дзе няма эканамічнага росту, не можа быць і росту прыбыткаў насельніцтва. А гэта ўжо не праблема эканамістаў, гэта праблема палітыкаў, дакладней, адзінага палітыка, калі ўжо гаворка пра Беларусь. Не дарма ж АП у свой час заўважыў: *«Нельзя не признать справедливость истины о том, что маленькая зарплата способна разрушить даже самое сильное государство»*.

## Не ў каня корм

«Існуючая мадэль росту» — гэта, як нескладана здагадацца, нам усім да болю знаёмая «беларуская мадэль эканамічнага развіцця» (БЭМР), прэзентацыя якой адбылася 10 гадоў таму — у сакавіку 2002 года. З афіцыйнага пункту погляду, яна не згубіла сваёй прывабнасці, ва ўсялякім разе *«анализ последних событий в стране подтверждает прочность белорусской социально-политической и экономической модели развития»*.

З узорам такога аналізу мы пазнаёміліся падчас выступу ў




прамым эфіры АП са штогадовым пасланнем. Як тут ні прыгадаць выказванні наконт масавай скупкі насельніцтвам воцату, запалак і спірту, што так трагічна адбілася на эканоміцы краіны.

Аўтары мемарандума не адмаўляюць поспехі, якія былі дасягнутыя ў межах БЭМР. Сярэднегадавыя тэмпы эканамічнага росту каля 8 працэнтаў і скарачэнне ўзроўню беднасці ў восем разоў яны ацанілі станоўча. Але за дрэвамі фактаў Сусветны банк паспрабаваў разглядзець лес — г.зн. прычыны, якія гэтыя факты спарадзілі. І вось да якой высновы яны прыйшлі: «На працягу ўсяго перыяду 2001–2010 гадоў эканамічная мадэль абапіралася на пастаўкі энерганосьбітаў з Расіі па зніжаных цэнах, прычым сярэднегадавы памер умоўна налічанай субсідыі перавышаў 13% ВУП».

Але і такой значнай субсідыі было недастаткова, каб падтрымліваць устойлівы эканамічны рост у 8%. Яна спраўлялася са сваёй задачай у першай палове дзесяцігоддзя, а пасля 2005 года ўрад быў вымушана звярнуцца да крэдытнага стымулявання ўнутранага попыту. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Калі ў 2005-м прафіцыт рахунку бягучых аперацый склаў 1,4% ВУП, дык у 2010 годзе — 15%. Такім чынам, ён павялічыўся адносна ВУП у 10,7 разу!

Расія і сёння працягвае субсідаваць БЭМР. 12 чэрвеня Уладзімір Пуцін, дэманструючы свайму ўкраінскаму калегу Віктару Януковічу выгаду ад далучэння да Мытнага саюза, заявіў, што толькі за кошт паніжэння цэнаў на энерганосьбіты Беларусь атрымае сёлета плюс 16% ВУП.

Як жа Беларусь распарадзілася такой значнай знешняй падтрымкай? Яна яе праела. Для пераходу з пабытавай мовы на мову прафесіяналаў Сусветнага банка я ў чарговы раз звярнуся да цытавання: «Магчымасці правесці структурную трансфармацыю эканомікі Беларусі ў гады буму, калі дзейнічалі часовыя перавагі (пастаўкі энерганосьбітаў па зніжаных коштах і спрыяльныя ўмовы гандлю), скарыстаны не былі, што зменшыла перспектывы, каб знайсці новыя крыніцы росту».

## Пра фігуру з трох пальцаў

Пра якія новыя крыніцы росту ідзе гаворка? У першую чаргу, пра інвестыцыйныя. Дзеля справядлівасці адзначу, што пэўныя рухі ў гэтым кірунку ўрад рабіў. Але дамагчыся адчувальных поспехаў на ніве прамых замежных інвестыцый і ўнутраных прыватных інвестыцый не атрымалася, дый не магло атрымацца ўжо хаця б з-за арганічнай несумяшчальнасці БЭМР і інвестыцыйнага росту. Крэдытнае ж стымуляванне па метадзе «атракцыён нечуванай шчодрасці» спарадзіла дысбалансы ў эканоміцы. Крызіс 2011 года — іх народжанае ў шлюбе дзіця. Што да ажыятажнага попыту на воцат і завозу *«по 20 автомобилей на брата»*, дык гэта не прычына дысбалансаў, а іх следства.

Дыяметральныя ацэнкі прычын крызісу спараджаюць і падыходы да распрацоўкі антыкрызісных стратэгій, якія не супадаюць. Нічога нечаканага і арыгінальнага заходнія спецыялісты не прапануюць. Будучы эканамічны рост, на іх думку, павінен грунтавацца на структурных рэформах ва ўмовах макраэканамічнай стабільнасці. Для пераліку асноўных кірункаў рэфармавання нам хопіць трох пальцаў на адной руцэ: па-першае, неабходна зрабіць пераразмеркаванне працоўных рэсурсаў і капіталу на карысць сегментаў эканомікі з высокай прадукцыйнасцю; па-другое, рэструктураваць дзяржаўныя прадпрыемствы; па-трэцяе, падтрымаць недастаткова развіты прыватны сектар і сектар паслуг.

Нескладана заўважыць, што ў выніку паслядоўнай рэалізацыі пералічаных кірункаў тры пальцы складуцца ў вядомую фігуру, і накіравана яна будзе ў бок БЭМР. У гэтым галоўная слабасць прапаноў. Жыццё, як адзначалася вышэй, міждысцыплінарнае. У Беларусі палітычная сістэма на правах манапаліста распараджаецца эканомікай, каб падтрымаць сацыяльную стабільнасць. У гэтым сутнасць БЭМР. Асобна рэфармаваць яе эканамічны блок не ўяўляецца магчымым, дый як яго вылучыць з цела адзінай і непадзельнай мадэлі?

Якое ж выйсце бачыць сам стваральнік БЭМР? Звернемся да яго выступу на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню Незалежнасці. Ніякіх дысбалансаў, ніякіх рэформаў, ніякага прыватнага сектара. Затое шмат, вельмі шмат «моцнай дзяржавы», з дапамогай якой *«Беларусь по-своему, не похожим ни на кого образом решила проблему, стоявшую в конце прошлого века перед десятками бывших социалистических стран, — проблему перехода от распределительной экономики к рыночной»*.

## Лепш дапамажыце матэрыяльна

Навошта нам парады па правядзенні рынкавых рэформаў, калі пераход да рынку ў Беларусі паспяхова завершаны? Як тут ні прыгадаць гераіню Ірыны Мураўёвай з яе несмяротнай формулай выжывання ва ўмовах крызісу: «Не вучыце мяне жыць, лепш дапамажыце матэрыяльна». Чым у гэтым сэнсе здольны дапамагчы мемарандум на 136 старонках, падрыхтаваны Сусветным банкам? Банк, між іншым, — фінансава-крэдытная ўстанова, якая здзяйсняе разнастайныя аперацыі з грашыма і каштоўнымі паперамі і прапануе фінансавыя паслугі ўраду, юрыдычным і фізічным асобам (Вікіпедыя). Дык ці не прасцей аказаць беларускаму ўраду фінансавую паслугу, і пажадана бязвыплатна?

Але вернемся да выступу на ўрачыстым сходзе 2 ліпеня. Ён на восем дзён апярэдзіў прэзентацыю мемарандума, тым не менш утрымлівае вычарпальны адказ так званым эканамістам, якія адважыліся ўсумніцца ў магчымасцях БЭМР.

*«Мир,* — як справядліва заўважыў АП, — *стремительно меняется, и даже самые, казалось бы, продвинутые страны не всегда успевают адаптироваться к этим изменениям»*. Але гэта іх праблемы. Да Беларусі яны маюць ускоснае дачыненне. Рэспубліка-партызанка здолела асядлаць хвалю, якая гэтым разам набыла форму еўразійскай прасторы. Яна фармуецца не для супрацьстаяння з кімсьці, а для далейшай інтэграцыі з Еўрасаюзам на Захадзе і дынамічнымі азіяцкімі эканомікамі на Усходзе. *«И именно это принципиально отличает новый евразийский проект от известных исторических аналогий — монгольского ханства, Российской империи и Советского Союза»*. Вось што значыць прафесійны гісторык!

Нагадаю, да рэалізацыі апошніх інтэграцыйных ініцыятыў Пуціна 13 гадоў Беларусь і Расія цесна ўзаемадзейнічалі ў рамках Саюзнай дзяржавы. Аднак дамагчыся прыкметных поспехаў як на заходнім, так і на ўсходнім кірунку гэта экзатычнае інтэграцыйнае ўтварэнне так і не здолела. Чаму ж тады пры пераходзе ад саюза дзвюх краін да саюза трох (плюс Казахстан) павінна паўстаць новая якасць, здольная ўдыхнуць жыццё ў БЭМР?

Уся справа ў «інтэграцыйнай зніжцы» ў выглядзе чарговых нафтагазавых прэферэнцый, якія Пуцін пагадзіцца даць Беларусі ў падзяку за падтрымку еўразійскага праекта. Шмат гадоў АП паслядоўна ішоў да агульных з Расіяй цэн на нафту і газ. У гэтым ён бачыў панацэю ад усіх эканамічных бедаў. Абмяжуюся адной цытатай з леташняй прэс-канферэнцыі для сродкаў масавай інфармацыі рэгіёнаў Расіі: *«Вы знаете, мы ведь ничем не отличаемся от россиян, от русского человека. Просто мы не так избалованы, как вы. Это объективно. Если бы у нас было столько нефти и природного газа, металлов и прочих руд, может, и мы были бы несколько так, знаете, вальяжными»*.

Тое, пра што марылі шмат гадоў, — спраўдзілася. У студзені — маі экспарт рос хутчэй за імпарт на 32,3 п.п. Прырост экспарту на 80% быў забяспечаны за кошт нафты і нафтапрадуктаў. Але ВУП пры гэтым дадаў усяго 3,1%, рэальныя грашовыя прыбыткі — 3,3%, а заработная плата змагла падцягнуцца толькі да $433. Пуцінскіх субсідый у 16% ВУП відавочна не хопіць, каб выйсці на абяцаныя $500. А абяцаны яны былі на III Усебеларускім народным сходзе ў 2006 годзе.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ІДЗЁМ НА ЎСХОД

Вольга ХВОІН



**Гарачае лета беларускай знешняй палітыкі абяцае знайсці працяг восенню. Камітэт па палітыцы і бяспецы Еўрасаюза разгледзіць магчымасць далейшых абмежаванняў палітычных кантактаў ЕС з Беларуссю. Да 31 кастрычніка новыя абмежавальныя меры стануць вядомыя грамадскасці. Разам з тым аналітыкі прагназуюць паглыбленне інтэграцыйных працэсаў на Усход.**

Нагодай для новай хвалі абвастрэння адносінаў з Захадам стала бяскрыўдная на першы погляд акцыя шведскай піяр-агенцыі «Studio Total», калі на Беларусь з лёгкаматорнага самалёта выкінулі плюшавых мядзведзікаў з прымацаванымі таблічкамі ў падтрымку свабоды і дэмакратыі. Шведы хацелі пасмяяцца з апошняй дыктатуры ў Еўропе. У выніку ж за краты трапілі журналіст Антон Сурапін і рыэлтар Сяргей Башарымаў, страцілі пасады кіраўнік Дзяржпагранкамітэта Ігар Рачкоўскі і камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны генерал-маёр Дзмітрый Пахмелкін.

Больш таго, 1 жніўня беларускія ўлады апавясцілі Швецыю пра непадаўжэнне акрэдытацыі амбасадару Стэфану Эрыксану. Дыпламата абвінавацілі ў дэструктыўнай дзейнасці і старанна «прапясочылі» ў дзяржаўных СМІ, абвінавацішы ў веданні беларускай мовы, кантактах з апазіцыяй, незацікаўленасці шведскага бізнэсу ў Беларусі. Варта адзначыць, што місіі дыпработнікаў рана ці позна заканчваюцца, і тыя з'язджаюць. Гэта нармальная практыка. Але не нармальна, калі чалавек працуе, падтрымлівае мясцовыя ініцыятывы, трымаецца годнай пазіцыі, а яго фактычна камітэт выказаў заклапочанасць, што ніхто з палітычных зняволеных у Беларусі не быў вызвалены падчас апошняй амністыі. У прадстаўнікоў ЕС захоўваецца глыбокая занепакоенасць з нагоды ўмоў утрымання палітвязняў.

Цяперашняя ж пазіцыя ўладаў Беларусі выглядае даволі нахабнай і ўпэўненай. У краіне адбываюцца парламенцкія выбары, і замест экспартнага варыянту лібералізацыі папаўняецца спіс кандыдатаў у палітвязні, закладнікамі ў турмах застаюцца палітвязні з «папярэдняга прызыву», — Лукашэнка крытыкуе кандыдатуру кіраўніка назіральнай місіі ад ПА АБСЕ.

Падтрымку Аляксандр Лукашэнка прадказальна знайшоў на Усходзе. У Мінск прыляцеў расійскі міністр замежных спраў Сяргей Лаўроў з нагоды 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносінаў паміж Беларуссю і Расіяй. «Расія будзе рабіць усё, каб ацэнкі парламенцкіх выбараў у Беларусі былі аб'ектыўнымі і непрадузятымі і не былі прадметам аднабаковых правілаў, якія спрабуюць навязаць у АБСЕ насуперак нашым калектыўным шматразовым прапановам выпрацаваць агульнапрынятыя правілы назірання за выбарамі», — заявіў міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў падчас сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам у Мінску.

На што беларускі лідар прагназавана адказаў ветлівай рэмаркай, што цяпер у беларуска-расійскіх адносінах няма напружанасці ў дачыненні да любой краіны, не вырашалі».

Міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў лічыць, што паспяховае супрацоўніцтва Беларусі з Расіяй, адносіны ў рамках Мытнага саюза, АЭП і АДКБ дапамогуць краіне выстаяць супраць ціску з боку Еўрасаюза.

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі мяркуе, што візіт кіраўніка расійскага знешнепалітычнага ведамства ў разгар адпачынкаў нясе не столькі функцыю падтрымкі, колькі выхавання. «Заўважце, Лаўроў з'явіўся ў Мінску пасля тэлефанавання Пуціна Лукашэнку. Пра што яны там гаварылі? Пуцін без неабходнасці рэдка ініцыюе сустрэчы і кантакты. Адно з маіх меркаванняў — чарговы канфлікт з ЕС, — разважае эксперт. — І калі гавораць, што Расія зацікаўленая ў канфліктах ЕС з Беларуссю, я не магу з гэтым цалкам пагадзіцца. У Берліне цудоўна разумеюць ступень адказнасці Крамля за беларукага саюзніка. Таму «падтрымка» — не зусім правільнае вызначэнне. Для Пуціна нагнятанне жарсцяў не спрыяльнае, для яго важная падтрымка найперш Германіі, вельмі важны гэты кампанент узаемаадносінаў у знешняй палітыцы. Звярніце ўвагу, Лаўроў падкрэсліў, што Расія не будзе адказваць санкцыямі на санкцыі. Гэта сведчыць пра тое, што ў эскалацыі канфлікту з Еўрасаюзам Масква не зацікаўленая».

Таксама Раман Якаўлеўскі звяртае ўвагу на саміт Руху недалучэння, што адбудзецца напрыканцы жніўня ў Тэгеране. Туды запрошаны і Лукашэнка, і Пуцін. Прычым Беларусь з'яўляецца сябрам структуры, а Расія — назіральнікам. «Думаю, Лаўрова сюды адправіў расійскі кіраўнік, каб патлумачыць на пальцах, як паводзіць сябе Лукашэнку ў Тэгеране, каб агучаныя словы былі ўзгодненыя», — гаворыць палітычны аглядальнік.

**У краіне выбары, і замест экспартнага варыянту лібералізацыі папаўняецца спіс кандыдатаў у палітвязні, закладнікамі ў турмах застаюцца палітвязні з «папярэдняга прызыву»**

высылаюць з краіны, перад гэтым абліўшы хлуслівым брудам. Карацей, у адказ на гэта шведскія ўлады заявілі, што не прымуць новага амбасадара Беларусі, і рэкамендавалі двум супрацоўнікам беларускай амбасады пакінуць Стакгольм. 8 жніўня МЗС Беларусі абвясціў пра адкліканне ўсіх супрацоўнікаў беларускай амбасады ў Стакгольме. Шведскаму боку рэкамендавана распачаць аналагічныя меры і адклікаць усіх сваіх дыпламатаў з Мінска да 30 жніўня.

Камітэт па палітыцы і бяспецы Еўрасаюза 10 жніўня сабраў пазачарговае пасяджэнне. ЕС заклікаў неадкладна вызваліць палітычных зняволеных у Беларусі і цалкам іх рэабілітаваць. Як гаворыцца ў заяве вярхоўнага прадстаўніка ЕС Кэтрын Эштан, ці ні па адным пытанні (ці даўно былі паміж двума дзяржавамі рознакаліберныя войны). Але гэта лагічна — як толькі ў Беларусі пагаршаюцца адносіны з Захадам, адразу ж пачынаецца мір і сяброўства з Расіяй.

Лаўроў у дадатак пакрытыкаваў Еўрасаюз за перайманне метадаў ЗША: «Звычайна такімі вось аднабаковымі крокамі, якія парушаюць міжнароднае права і якія суправаджаюцца экстэрытарыяльнымі санкцыямі, славіліся Злучаныя Штаты Амерыкі. Апошнім часам Еўрасаюз заразіўся гэтым прыкладам, на вялікі жаль... Прэцэдэнты падобнага былі. Што характэрна, кожны раз пасля такіх прэцэдэнтаў ЕС усведамляў бесперспектыўнасць аднабаковых санкцый, якія ніколі ніякіх праблем у свеце, любым рэгіёне,

Аглядальнік Аляксандр Класкоўскі звярнуў увагу, што Лаўроў у час візіту ў Мінск закрануў тэму прасоўвання еўразійскай інтэграцыі ў парламенцкім увасабленні, то бок стварэнне наднацыянальнага кіруючага органа. «Гэтая тэма ўжо ўздымалася ў чэрвені, калі ў Беларусь прыязджалі спікер Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расіі Валянціна Матвіенка і старшыня Дзярждумы Расіі Сяргей Нарышкін. Таму гэтая тэма — не поле дзейнасці Лаўрова. Але, безумоўна, еўразійскі праект будзе прасоўвацца па схеме шырокай інтэграцыі», — падкрэслівае Раман Якаўлеўскі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# «ЖЫГУЛІ» ПА ЦАНЕ «МЭРСЭДЭСАЎ»

**Адказваючы на пытанні журналістаў падчас паездкі на Гродзеншчыну, Лукашэнка сцісла, але грунтоўна і аптымістычна ацаніў сучасны стан беларускай эканомікі.**



На яго думку, пра гэта сведчыць дадатнае сальда знешняга гандлю (самае вялікае за апошнія 10 гадоў), паскоранае назапашванне Нацбанкам золатавалютных рэзерваў, поспехі ўрада ў зараблянні грошай на развіццё краіны і выкананне ёй ранейшых знешніх фінансавых абавязальніцтваў, устойлівы рост вытворчасці ВУП. Праўда, тэмпы росту маглі б быць і большымі, але, як можна было зразумець прамоўцу, ад добрага лепшага не шукаюць. Галоўнае, што грошы на падвышэнне сярэдняга заробку да запаветных 500 долараў ёсць. У адказ на сумнеў, што выказваецца ў грамадстве, ён сказаў як адрэзаў: «Абсалютна дакладна заяўляю: калі не хопіць, і заробкі падвышаць не будзем». Лукашэнка і на гэта раз удакладніў, што для падвышэння заробкаў трэба падняць прадукцыйнасць працы, а ўжо пасля выдаткоўваць зароблены грошы на гэтыя мэты. Але такое ўдакладненне ўсё зноў заблытала — калі зароблены грошай не хопіць на выплату пазык, то і заробкі падвышаць не будуць?

«Я бачу, што гэта зрабіць можна. І патрабаванні невялікія: што такое 500 долараў? Гэта не грошы. Таму і страху ў гэтым няма», — адказаў кіраўнік.

І сапраўды, няма. Бо галоткая праўда ў тым, што вось такі мінімум у нас лічыцца сацыяльным стандартам.

У Беларусі 500 долараў сведчаць пра дабрабыт. Бо калі не, то большасць людзей, якія ў сярэднім не атрымліваюць гэтыя «не грошы», трэба лічыць жабракамі. Бо беднасць за межамі фізічнага выжывання мае адносны характар. Зразумела, што ў кожнага з нас грошай нашмат меней, чым у нейкіх там алігархаў, і нават у такога «беднага» прэзідэнта, які намі кіруе без малога два дзесяцігоддзі. Але нас ад гэтага, як той казаў, жаба не душыць. А вось ад таго, што ў суседняй Польшчы не так даўно «мінімалку» паднялі да 500 долараў, становіцца не па сабе. Гэта ж атрымліваецца, што кожны смаркач, вучань на вытворчасці, атрымлівае болей, чым наш кваліфікаваны спецыяліст!

Што цікава, напярэдадні рэформаў эканоміка Беларусі была ў значна лепшым стане, чым польская. І амаль усе эксперты, хоць нашы, хоць замежнікі, лічылі, што беларусы, як гаворыцца ў адной шведскай показцы, нарадзіліся з сярэбранай лыжкай у роце. Літаральна праз некалькі гадоў пасля пачатку так званай «шокавай тэрапіі» эканоміка Польшчы пайшла ўверх, і эканамічны стан насельніцтва пачаў імкліва паляпшацца. У 1994 годзе спажывецкія тавары ў Польшчы былі і лепшымі, і больш разнастайнымі, і таннейшымі. І сёння там амаль усё каштуе меней, чым у нас. А сярэдні заробак даўно пераваліў за паўтары тысячы долараў.

Ну скажыце, нашто нам такое гора, калі кіраўнік дзяржавы ніколькі не саромеецца заяўляць, што сярэдняя зарплата ў краіне — гэта не грошы?

Днямі кіраўнік краіны зноў правеў селектарную нараду. Як звычайна, паздзекаваўся з Амерыкі, дзе быццам бы ад спякоты прапаў ураджай, і таму амерыканцам цяжка давядзецца. А ў нас — лацвей, ураджай добры, будзем гандляваць і добра зарабляць.

Спасылаўся ён на разлікі міжнародных экспертаў. Зазірнуў у іх і я. І даведаўся, што ў ЗША мяса каштуе ў некалькі разоў танней (ялавічына, даўжэйшая мышца, па якой вызначаецца цана, там каштуе 4,5 долара, а ў Беларусі — 12). Прачытаў і не паверыў. Зазірнуў у сеціва. Як аказалася, «даўжэйшая мышца» вытворчасці Слонімскага камбіната прапануецца па цане 111 450 рублёў (13,6 долара). У тры разы даражэй, чым у ЗША. Зразумела, што іх рынак для нашых вытворцаў зачынены назаўсёды. Але ж вось у Расіі ялавічына каштуе ў розніцы аж 16 долараў. І недалёка вазіць, і добра «на братках» можна нажыцца.

А на самай справе? Па дадзеных Белстата, за пяць месяцаў у Расію прадалі 116,6 тысяч тон мяса і мясных субпрадуктаў на 3699 долараў. Атрымоўваецца па 3,7 долары за кілаграм. Гэта значыць, што гандлюем не дзеля таго, каб добра зарабіць, а дзеля таго, каб зарабіць нейкую «валютную капейчыну». Бо «рэзаная папера», якую абяцалі не друкаваць, але друкуюць, — гэта грошы з мізэрнымі магчымасцямі для канвертацыі.

Экспарт абагнаў імпарт на 2,6 мільярда долараў, з якіх 2,2 мільярда даваліся пералічыць Расіі як мыту на нафтапрадукты. Атрымоўваецца хоць і не мінус, але па вялікаму рахунку, і не плюс. Бо атрымаўся ён цалкам штучна. Захадаў тут рабілася многа, але ўжо хопіць узгадваць трылер «нафтарастворнікі». Скажам толькі, што імпарт легкавых аўто склаў усяго 15% ад мінулагодняга, бо сярэдняя цана павысілася да 11 тысяч долараў (на 40%). Расійскіх машын куплена аж 3,6 тысячы, бо каштуюць яны столькі ж, колькі і заходнія. Вось і атрымалі беларусы «Жыгулі» па цане «Мэрсэдэсаў».

## 24 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Журналісцкае расследаванне. «Імперыі змагу».
**11.05** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш..» (Украіна). 3-я серыя.
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Каробка перадач.
**18.45, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** «Не толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**22.55** Фантастычны фільм «Гарызонт падзей» (ЗША-Вялікабрытанія).
**00.55** Дзень спорту.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Капітан Гардзееў». Шматсер. фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.10** Фільм «Будзь што будзе».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Рой». Канада, 2005г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Памнажаючы смутак» Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Памнажаючы смутак» Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Пяць маіх былых сябровак». Вялікабрытанія, 2009г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Расійская покерная серыя».
**00.40** Прэм'ера! «Адмысловы праект»: «Тытанік». Рэпартаж з таго свету».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.55** Еш і худзей.
**11.25** Школа рамонту.
**12.30** Страсці па культуры.
**13.15** Гісторыка-біяграфічны фільм «Каханне і праўда Фёдара Цютчава» (Расія).
**14.55** Баявік «Я аб'яўляю вам вайну» (СССР).
**16.35** Жансавет.
**17.10** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**19.25** Баскетбол. Эўра-2013. Адборачны раўнд. Мужчыны. Беларусь-Італія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Хакей. Міжнародны турнір памяці Руслана Салея.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».
**11.00** Весткі.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.15** Фільм «Раман у лістах».2011 г.
**00.00** Навіны - Беларусь.



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** І зноў добры дзень!
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Сярод бела дня».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Прафесія-рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Камедыя «Афрадыты».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Дазнаўца».
**22.15** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**00.00** Вострасюжэтны фільм «Адкупленне».



**09.30** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. Групавы этап. Гана - Германія.
**10.15** Веласпорт. Вуэльта. Этап 6.
**10.55** Тэхналогія чэмпіёнаў. Часопіс.
**11.00, 12.15** Пляжны футбол. Еўраліга. Нідэрланды. Групавы этап.
**13.30, 18.45** Снукер. Турнір ЕРТС. Германія. Дзень 1.
**17.00, 01.30** Веласпорт. Вуэльта. Этап 7.
**22.00** Бокс.
**23.55** Бізнэс клас. Часопіс.
**00.00** Тэніс. Турнір WTA. 1/2 фіналу.
**02.30** Тэхнічны перапынак.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.40** «Малая Масква», серыял: 3 серыя.
**08.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.40** «Час гонару», серыял: 48 серыя.
**09.25** «Тэра постсаветыка. Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Лекар душы», рэпартаж, 2008 г., Беларусь.
**10.45** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**11.10** «Левасуддзе», тэлесерыял: 3 серыя.
**11.50** «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**12.50** МакраФон: «Рок-карона–2009», выбранае: ч. 1.
**13.20** «Малая Масква», серыял: 3 серыя.
**14.10** Лета з дэтэктывам: «Д'яблавы хітрыкі», серыял: 1 серыя.
**15.10** «Тэра постсаветыка. Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.15** «Лекар душы», рэпартаж, 2008 г., Беларусь.
**16.35** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**16.55** «Бульбаны», мультсерыял.
**17.00** «Кароль-вінароб», серыял: 10 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 12 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Няскораная», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**22.00** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**23.30** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.50** Аб'ектыў.
**00.15** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 11 серыя.
**01.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 25 ЖНІЎНЯ, СУБОТА



**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Мультфільмы.
**12.40** Лірычная камедыя «Каханая жанчына механіка Гаўрылава « (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.20** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Меладрама «Мы дзіўна сустрэліся» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.50** Дзень спорту.
**23.00** Прыгодніцкая камедыя «Кракадзіл Дандзі» (Аўстралія).
**00.45** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.40** «Смак».
**11.25** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.45** Камедыя «Дача».
**13.20** Прэм'ера. «Маргарыта Церахава. Хто шмат бачыў, мала плача».
**14.20** Фільм «Расклад на паслязаўтра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік».
**16.50** «Хірамант. Лініі лёсаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жадаю Вам…!» Канцэрт.
**22.50** Прэм'ера. Дэтэктыў «Геній пустога месца».
**00.35** «Чырвоная зорка».



**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Анфас».
**07.30** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Пяць маіх былых сябровак». Вялікабрытанія, 2009 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Фільм «Сардэчна запрашаем, або старонnім уваход забаронены». СССР.
**14.40** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.50** Фільм «Садоўнік». Расія-Украіна, 2007г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Даміно». ЗША-Францыя-Вялікабрытанія, 2005 г.
**22.30** «Зорны рынг».
**23.25** «Правакатар». Серыял.



**08.00** Камедыя «Суседзі» («Беларусьфільм»).
**09.15** «Бі Муві: мядовая змова». Мультфільм (ЗША).
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Наперад у мінулае.
**14.10** Беларуская кухня.
**14.45** Музычная камедыя «Вяселле з пасагам» (СССР).
**16.55** Хакей. Міжнародны турнір памяці Руслана Салея. Прамая трансляцыя.
**19.25** Футбол. Прэм'ер-ліга. Чэлсі - Ньюкасл. Прамая трансляцыя.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Бітва экстрасэнсаў.
**23.40** Трылер «Унутранае расследаванне» (ЗША).
**01.50** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** «Маша і мядзведзь». Мультфільм.
**07.15** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.50** Фільм «Не сышліся характарамі».
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Танцуючая планета. Куба».
**11.55** Фільм «Раман у лістах» (2011 г.).
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Няспетая песня Ганны Герман». Дакументальны фільм.
**15.40** «Шукальнікі».
**16.30** Фільм «Прадказанне» (2011 г.).
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Шаптуха» (2012 г.).
**00.00** «Дзяўчаты».



**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны пядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Дарожны патруль».
**15.05** «Развод па-руску».
**16.00** Выратавальнікі.
**16.30** «Пракурорская праверка».
**17.30** Вочная стаўка.
**18.25** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.00** Сёння.
**19.25** «Прамень Святла».
**19.55** «Самыя гучныя Рускія сенсацыі».
**21.45** Ты не паверыш!
**22.40** Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
**00.15** Драма «Нармалёвае жыццё».



**09.30** Веласпорт. Вуэльта. Этап 7.
**10.30, 18.45, 01.45** Снукер. Турнір ЕРТС. Германія. Дзень 2.
**15.00** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Заезд 1.
**16.00** Скачкі на лыжах. Летні Гран-пры.
**17.00, 00.45** Веласпорт. Вуэльта. Этап 8.
**22.30** Тэніс. Турнір WTA. Фінал.
**23.45** Пляжны футбол. Еўраліга. Нідэрланды.
**03.00** Тэхнічны перапынак.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**08.00** «Школа на санцапёку», серыял: 2 серыя.
**08.25** «Мой родны горад», серыял: 23 серыя.
**08.50** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.25** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 12 серыя.
**10.55** «Малая Масква», серыял: 2 серыя.
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Казкі для дзетак: «Сцэны з жыцця цмокаў», «Фільм са страшнай назвай», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**12.30** «Школа на санцапёку», серыял: 2 серыя.
**12.45** Беларускія лёсы: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**13.20** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 11 серыя.
**14.10** Гісторыя – на вакацыі: «Няскораная», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**14.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.55** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Dali».
**15.10** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**16.45** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 3 і 4 серыя.
**17.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Левасуддзе», тэлесерыял: 3 серыя.
**18.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея "У Хэрач'яна"», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**21.45** Суботні сеанс: «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.00** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 23 серыя.
**01.00** «Бульбаны», мультсерыял.

## 26 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

07.10 Існасць.
07.35 Меладрама «Мы дзіўна сустрэліся» (Расія-Украіна).
09.00, 12.00, 15.00 Навіны.
09.10 Арсенал.
09.40 Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
09.50 Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).
11.00 «Зона Х». Вынікі тыдня.
11.35 Мультфільм «Брэменскія музыкі».
12.10 Медычныя таямніцы.
12.45 Мультфільм «Па слядах Брэменскіх музыкаў».
13.05 Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
14.00 Час Саюза.
15.10 Рэгіянальная праграма.
15.30 Мультфільм «Лятучы карабель».
15.55 Прыгодніцкі фільм «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
17.45 Каробка перадач.
18.20 Суперлато.
19.10 Моладзевая камедыя «О, шчаслівчык!» (Расія).
21.00 У цэнтры ўвагі.
21.55 Журналісцкае расследаванне. «Паміж небам і зямлёй».
22.30 Навукова-фантастычны фільм «Штучны розум» (ЗША).
00.00 Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).

### АНТ

07.00 АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
08.00, 09.00 Нашы навіны.
09.05 Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
09.20 «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
09.55 «Шалапутныя нататкі».
10.15 Пакуль усе дома.
11.10 «Фазэнда».
11.45 «Смешарыкі. ПІН-код».
12.10 Фільм «Неспадзяванае каханне».
13.35 «Ірына Скобцава. Знакі лёсу».
14.35 Фільм «Сярожа».
16.00 Нашы навіны.
16.15 Навіны спорту.
16.20 «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
18.00 Прыгодніцкі фільм «V Цэнтурыя: У пошуках зачараваных скарбаў».
20.00 Контуры.
21.05 Прэм'ера. Фільм «Сола на саксафоне».
23.05 «Вялікая розніца». Лепшае.
00.05 Прэм'ера. Фільм «Байкер».

### СТВ

06.20 «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
07.10 «Далёкія сваякі».
07.25 «Салдаты-14». Серыял.
09.00 «Аўтапанарама».
09.30 «Жыць будзеце».
10.00 «Вялікі сняданак».
10.40 Фільм «Даміно». ЗША-Францыя-Вялікабрытанія, 2005г.
12.50 «Добры дзень, доктар».
13.25 Фільм «А калі гэта каханне?». СССР, 1961г.
15.15 Ток-шоў «Такі лёс».
16.00 «Цэнтральны рэгіён».
16.30 «24 гадзіны».
16.50 «Рэпарцёрскія гісторыі».
17.15 Канцэрт М.Задорнава.
19.00 «Аўтапанарама».
19.30 «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
20.40 Фільм «13». ЗША, 2010г.
22.30 Прафесійны бокс.
23.00 «Пякельная кухня».
00.15 Фільм «Далёка ад яе». ЗША-Канада-Вялікабрытанія, 2006г.

### Беларусь 2

07.00 Музычная камедыя «Вяселле з пасагам» (СССР).
09.00 «Губка Боб – квадратныя штаны». Мультфільм (ЗША).
10.20 Тэлебарометр.
10.25 Школа рамонту.
11.30 Вышэй за дах.
12.05 Шоў «Суперінтуіцыя».
13.10 Авантурная камедыя «Трэст, які лопнуў» (СССР). 1-я, 2-я, 3-я, заключная, серыі.
16.55 Хакей. Міжнародны турнір памяці Руслана Салея. Прамая трансляцыя.
19.20 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
21.20 Спортлато 5 з 36.
21.25 КЕНО.
21.30 Навіны надвор'я.
22.00 Спорт-кадр.
22.45 Драма «Прыгажосць па-амерыканску» (ЗША).
01.00 Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

07.00 «Уся Расія».
07.15 Мультфільмы.
07.40 Фільм «Шаптуха» (2012 г.).
11.00 Весткі.
11.15 «Сам сабе рэжысёр».
12.00 «Смехапанарама».
12.30 Фільм «Ніхто не заменіць цябе».
14.00 Весткі.
14.15 «Уся Расія».
14.30 «Холад». Дакументальны фільм.
15.20 «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
16.20 Фільм «Зойкіна каханне» (2011 г.).
18.10 «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
20.00 Весткі.
20.30 Фільм «Выратаваць мужа» (2011 г.).
23.45 Фільм «Елкі-палкі!».

### НТВ

06.25 Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
08.00 Сёння.
08.20 «Жывуць жа людзі!».
08.50 Іх норавы.
09.25 Ямо хаты!
10.00 Сёння.
10.20 «Крамлёўскія пахаванні».
11.05 Дачны адказ.
12.10 «Развод па-руску».
13.00 Сёння.
13.20 Серыял «Дарожны патруль».
15.05 Следства вялі..
16.00 «Увага: вышук!».
16.30 «Пракурорская праверка».
17.35 І зноў добры дзень!
18.30 «Прафесія - рэпарцёр».
19.00 Сёння.
19.25 Чыстасардэчнае прызнанне.
21.40 «Таемны шоў-бізнэс».
22.40 Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
00.15 Фільм з цыклу «Уласны гонар».

### EUROSPORT

09.00 Скачкі на лыжах. Летні Гран-пры.
10.45 Супербайк. Чэмпіянат свету. Масква. Кваліфікацыя.
11.00 Супербайк. Чэмпіянат свету. Масква. Заезд 1.
11.45 Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Заезд 2.
12.45, 20.00 Снукер. Турнір ЕРТС. Германія. Дзень 3.
14.30 Супербайк. Чэмпіянат свету. Масква. Заезд 2.
15.30 Веласпорт. Гран пры.
17.15 Веласпорт. Вуэльта. Этап 9.
18.45 Аўтаспорт. World Endurance Championship.
21.00 Снукер. Турнір ЕРТС. Германія. Фінал.
23.00 Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 20 гадоў. Жанчыны. Групавы этап. Італія - Нігерыя.
00.00 Матаспорт. Суперспорт. Чэмпіянат свету. Масква.
01.00, 02.15 Матаспартыўны уік-энд.
01.15 Веласпорт. Pro cycling challenge. ЗША. Этап 7.
02.10 Бізнэс клас. Часопіс.
02.30 Тэхнічны перапынак.

### БЕЛСАТ tv

07.00 Аб'ектыў.
07.15 Англійская для дзяцей.
07.20 Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
07.50 «Школа на санцапёку», серыял: 3 серыя.
08.15 «Мой родны горад», серыял: 24 серыя.
08.40 Моўнік (лінгвістычная праграма).
08.55 Побач з намі.
09.10 «Левасуддзе», тэлесерыял: 3 серыя.
09.55 «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 3 і 4 серыя.
10.55 Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
11.20 Англійская для дзяцей.
11.25 Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
11.55 «Школа на санцапёку», серыял: 3 серыя.
12.20 Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 23 серыя.
13.15 Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
13.45 «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея "У Хэрач'яна"», дак. фільм, 2006 г., Германія.
14.15 Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
14.35 «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
16.35 Форум (ток-шоў).
17.25 «Глядзі, Літва!», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
18.25 «Каралева Бона», тэлесерыял: 12 серыя.
19.10 Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
19.35 Англійская для дзяцей.
19.45 Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
20.00 Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
21.00 Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
21.20 Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
22.55 Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 24 серыя.
23.55 Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

ЮБІЛЕЙ

# ВАЙНА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Алег НОВІКАЎ

**Расія святкуе 200-ю гадавіну вайны з Напалеонам. Якое месца займае тая вайна ў цяперашняй расійскай грамадскай дыскусіі? Прапануем агляд расійскай аналітычнай думкі.**



24 (12 па старым стылі) чэрвеня 1812 года авангард французскага войска фарсіраваў Нёман і ўвайшоў у Коўна — пачалася вайна. Роўна праз 200 гадоў руская намагаюцца зразумець, у чым заключаюцца галоўныя ўрокі той вайны для сучаснай Расіі.

Праўда, ёсць такія, якія лічаць, што вайна з французскімі супастатамі дасюль працягваецца. Гэта невялікая групоўка лаяльных нацыяналістаў, якая пабачыла ў акцыі гурта «Pussy Riot» не што іншае, як помсту французаў за прайграную 200 гадоў таму кампанію. «Невыпадкова месцам блюзнерскіх дзеянняў быў абраны галоўны праваслаўны храм, а не касцёл, мячэць ці сінагога. 21 лютага 5 удзельніц блюзнерскага акту, убраныя ў хусткі, увайшлі ў храм пад выглядам наведвальніц. Іх суправаджала прэса, у тым ліку два прадстаўнікі французскіх СМІ)», — адчыняе вочы людзям публіцыст Яўген Хромаў. Ён рэзюмуе: «Істотна, што Храм Хрыста Выратавальніка быў пабудаваны першапачаткова на народныя грошы ў памяць пра Айчынную вайну 1812 года, 200-годдзе якой адзначаецца зараз, і гэта акцыя — апаганенне памяці нашых гераічных продкаў, загінулых на той вайне. Магчыма, зусім не выпадкова ў групе падтрымкі «Pussy Riot» фігуруюць дзве французскія грамадзянкі. Рэванш!»

Калі ўжо гаворка пайшла пра праваслаўную царкву, то яна вельмі заўважная ў гэтых святкаваннях. Здаецца, для РПЦ гэта добрая нагода, каб узняць аўтарытэт. Пры гэтым роля царквы ў перамозе над Банапартам гіпертрафуецца да фантастычных маштабаў. «У 1941-м народ гуртавалі зводкі Саўінфармбюро, голас Левітана з радыёкропкі. У 1812-м толькі бацюшкі распавядалі людзям, што на нашай зямлі вораг, што Расія ваюе. Вось вам прыклад, калі сімфонія Царквы і дзяржавы апынулася выратавальнай для Расіі без супярэчнасцяў з сутнасцю хрысціянства. У сутыкненні з непераможнымі французамі натхніць рускага салдата маглі толькі бацюшкі…» — піша на сайце «Праваслаўны свет» Арсеній Замасцянаў.

Шмат забаўных тэзісаў наконт урокаў вайны 1812 года можна пачуць ад афіцыйных ідэолагаў. Увогуле, дзяржава адзначае юбілей у рамках спецыяльнай дзяржаўнай праграмы, якую зацвердзілі яшчэ год таму. Падчас яе адбываецца шмат мерапрыемстваў. Па краіне ідзе хваля конкурсаў патрыятычнай паэзіі, дзіцячых малюнкаў, перайменаванняў, адкрыцця помнікаў і нават балаў нашчадкаў удзельнікаў той вайны. Тут варта згадаць, што, калі ў 1912 годзе святкавалі стагоддзе Барадзіно, да гэтага не дадумаліся.

Дзесьці на месцах службоўцы, здаецца, трошкі перайшлі мяжу. Так, на Урале працы пераможцаў рэспубліканскага конкурсу дзіцячых малюнкаў «Айчынная вайна 1812 года» вырашылі змясціць на білбордах.

Што тычыцца афіцыйнай аналітыкі, то яна раскручвае ідэю пра тое, нібыта ўсім расіянам трэба, як у 1812 годзе, аб'яднацца вакол дзяржавы. Варта працытаваць калумніста піцерскай газеты «Санкт-Петербургские ведомости»: «Толькі тады Расія стане вялікай краінай, калі мы будзем любіць усім сэрцам нашу гісторыю. Падабаюцца нам ці не падабаюцца тыя ці іншыя падзеі — трэба яе любіць, таму што гэта адзіная наша краіна. Успомнім Пушкіна: «Іншай гісторыі не жадаю і не трэба». Пакутую, лаю — гэта маё права, але кахаю. І нікому ў крыўду не дам».

Аднак ёсць і больш цікавыя распрацоўкі. Выданне «Взгляд» піша: «Нас выратавала тое, што Напалеона сустрэла войска сапраўднай Расіі — імперыі Раманавых, а Гітлера — войска чырвонай імперыі — СССР. Паколькі самую вялікую ў свеце краіну, якае займае 1/6 сушы, магла пабудаваць толькі моцная, цэнтралізаваная дзяржава… Сёння сітуацыя непараўнальна горшая, удар іншаземных войскаў можа пачацца з-пад Смаленска. У сэнсе геапалітыкі па сваіх заходніх межах Расія стала ці ледзь не звычайнай еўрапейскай краінай, і гэта адназначна дрэнна. Гістарычна доўга стаяць на месцы, захоўваць статус-кво ў нас наўрад ці атрымаецца. Трэба паступова адыходзіць на Усход, пераносіць сталіцу да Урала, аднаўляючы звыклую адлегласць да заходняй мяжы».

Што тычыцца славянафілаў, то яны лічаць, што 1812 год прадэманстраваў, якія небяспечныя наступствы можа мець захапленне рускіх заходняй культурай. «Наша айчына працягвае жыць у тых умовах, якія назараліся 200 гадоў таму. У той час расійскі палітычны клас з самымі яго першымі асобамі быў усёй душою адкрыты Захаду. Дваранства пры дапамозе войска гувернёраў вывучвала французскую мову раней за родную. 1812-ы ж год паказаў рэсурс народнай Расіі, веліч рускай цывілізацыйнай альтэрнатывы, якой, на жаль, дарэвалюцыйныя дзяржаўныя колы не скарысталіся. Галоўны ўрок 1812 года вучыць: мы павінны быць. Тады будзем перамагаць. Так, сёння яна (вайна) ідзе «ціхай сапай» у новых мадэрных формах "культурнай" інтэрвенцыі, калі пры "дапамозе" розная кшталту замежных фондаў маладых людзей прывучаюць ненавідзець уласную айчыну пад выглядам нейкага "культурнага дыялогу", які на самай справе ператвараецца ў добраахвотную рускую духоўную капітуляцыю», — піша АПН.

У сваёй кампаніі супраць заходнікаў нацыяналісты даходзяць да таго, што лічаць вайну 1812 года забаўкай масонаў. Герман Сцерлігаў піша: «Даўным-даўно ці то здраднік, ці то дэбіл Кутузаў вырашыў «высакародна» ахвяраваць незлічонымі жыццямі рускіх салдат і даць бой, як патрабавалі вайсковыя каноны таго часу, у чыстым полі. Пабудавалі пару рэдутаў — і наперад... Кампанія 1812-га больш за ўсё нагадвае сапборніцтва дзвюх масонскіх груповак, хто больш сваіх салдатаў загубіць у барацьбе за панаванне ў створаным тады Адзіным еўрапейскім саюзе. Напалеона пусцілі пад раздачу, у нас вайну назвалі Айчыннай і паставілі паганскія ідалаў на Барадзінскім полі і агідную паганскую трыумфальную арку на Кутузаўскім праспекце. Памер гарматнага мяса ў разлік не прымаўся — бабы яшчэ нараджаюць».

Левыя (не блытаць з камуністамі, якія блакуюцца з нацыяналістамі), намагаюцца зразумець, чаму вынікам выбуху нацыянальна-вызвольнага руху 1812 года стала ўзмацненне рэакцыі ў Еўропе. Акрамя таго, народу Расіі перамога над Напалеонам па-сутнасці нічога не дала — сацыяльна-эканамічная сістэма не змянілася, прыгонная права працягвала існаваць... Атрымліваецца, што рускі патрыятызм — рэакцыйная дактрына.

Аднак сайт маскоўскіх камуністаў піша: «Менавіта перамога ў 1812 годзе, дасягнутая дзякуючы ўздыму нацыянальнага духу, выклікала ў Расіі імкненне да вальнадумства, пад яе ўплывам пачала фармавацца ідэалогія дваранскіх рэвалюцыянераў — дзекабрыстаў, якія ў 1825 годзе паднялі паўстанне. Недарма, па словах Герцэна, «сапраўдную гісторыю Расіі адкрывае сабой толькі 1812 год; усё, што было да таго, — толькі прадмова».

Як бачым, агульнага падыходу ў расійскім грамадстве да вайны 1812 года няма, а тая аналітыка, што ёсць, наўрад ці запатрабаваная простымі людзьмі. Увогуле, сама вайна ў сучаснай масавай культуры Расіі прадстаўлена вельмі слаба. Сінонімамі тых падзей з'яўляюцца гусары і рамантычныя дамы накшталт Наташы Растовай. Таму некаторыя культуролагі справядліва баяцца таго, што юбілей вайны стане нефармальным святкаваннем дня нараджэння папулярнага ў народзе персанажа — паручніка Ржэўскага.

Увогуле, казаць пра вынікі дыскусіі наконт спадчыны вайны 1812 года можна будзе толькі напрыканцы жніўня, калі падчас святкавання Барадзінскай бітвы яна дасягне свайго зеніту.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Канспіралагічныя версіі беларускага прэзідэнта пра міжнародную змову супраць Беларусі і пагрозы «разабрацца» і з літоўцамі, і са шведамі, гучаць, мякка кажучы, недарэчна. Асабліва, калі ўлічыць тры тыдні маўчання, калі ўлады спрабавалі схаваць, што 4 ліпеня аб'яднаная сістэма СПА Расіі і Беларусі двойчы празявала ўварванне ў паветраную прастору замежнага самалёта.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Гісторыя з мядзведзямі выглядае паказальна не толькі для беларусаў, але і для нас. Яна ясна дэманструе, што аўтарытарныя постсавецкія рэжымы могуць дэградаваць да бясконцасці. І калі даць ім магчымасць панаваць, не азіраючыся на грамадства, яны стануць небяспечнымі для кожнага — нават для апошняга абывацеля, упэўненага, што яго гэта не тычыцца… Рыэлтар Сяргей Башарімаў — можа, у яго наогул ніякіх палітычных поглядаў няма. Можа, ён ніколі не задумваўся пра тое, як магла б выглядаць Беларусь, калі б ёй кіраваў хтосьці іншы. Але сёння жыццё гэтага чалавека растаптане папросту таму, што ён стаў закладнікам уласнай — уласнай! — дзяржавы. Такога ў сусветнай гісторыі і не ўзгадаць — дзяржава, якая выкарыстоўвае інстытут закладнікаў у палітычных мэтах і пры гэтым бярэ ў закладнікі сваіх грамадзян!

**«LB» (Украіна)**

Улада ў Расіі і ў Беларусі ўбачыла пагрозу асабіста сабе. Тры дзяўчыны ў масках і нават цацачныя плюшавыя мядзведзі, аказваецца, могуць рэальна напалохаць людзей, у чыіх руках войска, паліцыя, тэлеканалы. Панк-набажэнства з «няправільным» палітычным лозунгам у галоўным, па-сутнасці казённым, храме Расіі і шведскі лёгкаматорны самалёцік перасеклі межы старэючых аўтакратый. Страх пазбавіцца ўлады ў кіраўнікоў, якія стварылі гэтыя рэжымы, захіляе любыя довады літасці, палітычнай мэтазгоднасці, элементарнага разумнага сэнсу. Таму плюшавыя мішкі і панк-набажэнства раптам ператвараюцца ў злачынствы супраць дзяржавы, становяцца замахам на яе асновы. Такая рэакцыя — дакладная прыкмета таго, што гэтыя асновы сапраўды вельмі слабыя. Але абараняць іх будуць усё больш жорсткімі і варварскімі спосабамі.

**«Gazeta» (Расія)**

Лукашэнка мае вострую патрэбу ў наяўнасці сваіх дыпламатычных прадстаўніцтваў у еўрапейскіх сталіцах. На працягу шматлікіх гадоў іх праца сабатавала высілкі па фармаванні агульнаеўрапейскага кансенсусу ў дачыненні да Беларусі. Рэальная пагроза пазбавіцца гэтага рэсурсу хутка прымусіць Лукашэнку вярнуць еўрапейскіх амбасадараў назад.

**«EU Observer» (Бельгія)**

Беларускія ўлады паказалі, што расійская гісторыя з «Pussy Riot» — сапраўднае свята дэмакратыі. Дзе адбываецца сапраўдны паноптыкум, дык гэта ў Мінску. Летась беларусаў арыштоўвалі за тое, што яны хадзілі па вуліцах, апладзіравалі, у гэтым — за тое, што яны фатаграфуюцца з плюшавымі мішкамі. Тактыка нязгодных і ў Беларусі, і ў Расіі ў апошнія гады вельмі падобная: людзі шукаюць, што можна, а што нельга, і ловяць уладу на кручок як дурную непаваротлівую рыбіну. Праўда, за сюррэалізм, які атрымліваецца ў выніку, часта даводзіцца плаціць уласнай свабодай. У крайнім выпадку, штрафам.

**«Собеседник» (Расія)**

Беларускія эксперты не былі так ужо ўпэўнены ў рэалізацыі такога жорсткага сцэнару (адкліканне паслоў краін ЕС з Мінску ў адказ на высылку Эрыксана). Найбольш відавочны і амаль тэхнічны чыннік — адсутнасць у Мінску большасці еўрапейскіх дыпламатаў: частка з іх у адпачынку, частка скончыла сваю дыпламатычную місію, а гэта значыць, што эфектнага дэмаршу ўсё адно не атрымаецца.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. ГАЛАДОЎКА БАСКСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ

Больш за 100 сяброў баскскай тэрарыстычнай нацыяналістычнай арганізацыі ЕТА, якія знаходзяцца ў турмах Іспаніі, абвясцілі галадоўку. Яны патрабуюць, каб улады выпусцілі з-за кратаў свайго хворага на рак таварыша Йосу Урыбечэберыя. Яго пасадзілі ў 1998 годзе за ўдзел у выкраданні іспанскага дзяржаўнага чыноўніка, якога пасля амаль два гады трымалі ў падпольнай турме ЕТА. Адпаведна пастанове суда, заставацца ў турме ён павінен яшчэ каля 10 гадоў. Баскі лічаць, што паводле прынцыпаў гуманізму выпускаць Йосу трэба зараз, паколькі ў яго фінальная стадыя хваробы на рак. У сваю чаргу, прадстаўнікі МУС кажуць, што пагрозы жыццю няма. Стан яго здароўя, адпаведна інфармацыі паліцыі, «стабільны». Адзінае, на што пакуль згодны Мадрыд, — перавесці вязня ў адну з турмаў у Краіне Баскаў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КУБА. АДМЯНІЛІ ЧОРНЫ ЛІСТ МУЗЫКАЎ

Кубінскі ўрад дазволіў выкананне ў эфіры радыёстанцый песняў музыкаў, якіх лічылі апазіцыйнымі. Гэта прыкладна 50 выканаўцаў. Яны трапілі пад забарону не абавязкова таму, што заклікалі да палітычных перамен. Шмат хто папросту быў заўважаны ў кампаніі дысідэнтаў, што ўжо стала падставай для таго, каб стаць падазроным у вачах спецслужбаў. На думку аналітыкаў, легалізаваць забароненых музыкаў улады прымусілі кампутарныя тэхналогіі. У час, калі запіс лёгка капіраваць, ізаляваць творчасць забароненых музыкаў немагчыма. Акрамя таго, на Востраве Свабоды даўно ўжо склаўся чорны музычны рынак, на якім можна лёгка набыць творы «забароненых». Плюс існуюць «чорныя» музычныя прадзюсары, якія арганізуюць выступы фігурантаў чорнага лісту на рознага кшталту імпрэзах.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ВЕРШЫ КЛАСІКА ЯК СРОДАК ПРАТЭСТУ



10 жніўня ў Казахстане адбылася незвычайная акцыя апазіцыі. Яе актывісты ў розных гарадах чыталі вершы з нагоды 167-годдзя казахскага філосафа і паэта Абая Кунанбаева. Увогуле, Абай (1845–1904) — гэта практычна як наш Багушэвіч, пiянер нацыянальнага адраджэння казахаў, заснавальнік сучаснага канону літаратуры. У савецкім і постсавецкім Казахстане Кунанбаеў лічыцца афіцыйным песьменнікам. Яму ставілі помнікі, у яго гонар называлі вуліцы і горныя вяршыні. Цяпер Абай нечакана стаў апазіцыянерам. Усё дзякуючы таму, што летнія пратэсты антыпуцінскай апазіцыі адбываліся каля помніка Абая ў Маскве. Адпаведна, шмат хто зацікавіўся, што гэта за помнік, каму ён пастаўлены, хто такі Абай. Такім чынам, Абай стаў сімвалам пратэстнага руху. Не дзіўна, што гадавіна нараджэння паэта выклікала інтарэс у казахскіх праціўнікаў Назарбаева. Як правіла, усе акцыі чытання вершаў Абая адбываліся ў прысутнасці паліцыі і прадстаўнікоў выканкамаў. У рамках задання яны ўважліва слухалі вершы, намагаючы знайсці крамолу. Аднак на гэты раз усе абышлося без арыштаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ПАМЁР ГАЛОЎНЫ ПРАЦІЎНІК БАЛЬЦАРОВІЧА

У Польшчы памёр эканаміст Тадэвуш Кавалік. У свой час ён быў галоўным ідэйным праціўнікам плану рэформаў ураду Лешэка Бальцаровіча, якія стварылі ў Польшчы мадэль ліберальнай эканомікі. Кавалік — яскравы прадстаўнік левай фракцыі антыкамуністычнай апазіцыі ў Польшчы. Напрыканцы 1960-х гадоў ён, вядомы вучоны, пачаў удзельнічаць у стварэнні незалежных прафсаюзаў. Пасля стварэння «Салідарнасці» Кавалік стаў адным з яе лідараў. Аднак пасля калапсу камунізму ён пасварыўся з былымі паплечнікамі, выступіў супраць ліберальных антысацыяльных рэформаў. У 1992 годзе Кавалік выйшаў з «Салідарнасці» і стаў адным з заснавальнікам партыі «Саюз працы». Пахаванне Каваліка стала падзеяй нацыянальнага маштабу. У шматлікіх гарадах прафсаюзы і левыя партыі нават арандавалі білборды, каб нагадаць публіцы пра фігуру Каваліка і пра тое, што цяперашняй ліберальнай мадэлі была альтэрнатыва. Цікава, што менавіта правы прэзідэнт Лех Качыньскі ў 2006 годзе ўзнагародзіў Тадэвуша Каваліка Крыжам Ордэну адраджэння Польшчы.

**Паводле польскай прэсы**

▸ **КАНФРАНТАЦЫЯ**

# НОВАЯ IRA

*Алег НОВІКАЎ*

**Праціўнікі міру ў Паўночнай Ірландыі заявілі пра адраджэнне структур легендарнай Ірландскай Рэспубліканскай Арміі.**



У чэрвені ўвесь свет абышлі кадры, на якіх намеснік кіраўніка ўраду Паўночнай Ірландыі Марцін МакГінэс і англійская каралева Елізавета Другая ціснуць адзін аднаму рукі. Гэта было сімвалічным актам заканчэння ірландска-брытанскага канфлікту, вядучымі антаганістамі якога былі менавіта Марцін і Елізавета. МакГінэс кіраваў ірландскім вайсковым падполлем, сябры якога неаднаразова рабілі замахі на каралеўскае сямейства.

Публіка і экспертная грамадскасць былі ў захапленні ад такой сцэны. Аднак цяпер высвятляецца, што манарх і былы рэвалюцыянер паспяшаліся. 29 ліпеня брытанская прэса напісала пра сакрэтны сход прадстаўнікоў фракцый ірландскіх рэспубліканцаў, якія не прызнаюць заключаную ў 1998 годзе Дамову вялікай пятніцы. Гэтая дамова заклала пачатак мірнага працэсу ў Паўночнай Ірландыі. Вынікам стала рашэнне пра аб'яднанне ўсіх экстрэмістаў у адзіную арганізацыю.

Непасрэдна сузаснавальніцай новай структуры стала Сапраўдная Ірландская Рэспубліканская Армія, або Real IRA. Арганізацыя Real IRA была заснаваная ў 1997 годзе на базе фракцыі сяброў, якія былі не згодныя з ідэяй мірных перамоваў з Лонданам. Менавіта Real IRA нясе адказнасць за выбух у горадзе Ома. Тады ў выніку выбуху аўтамабіля, унутры якога знаходзілася бомба, былі забітыя 29 чалавек. Акцыя была праведзеная, каб сарваць імплементацыю падпісанай раней Дамовы вялікай пятніцы.

Наступная арганізацыя-заснавальніца — Рэспубліканская акцыя супраць наркотыкаў (Republican Action Against Drugs, або RAAD) — група былых сяброў IRA, якія змагаюцца супраць наркадылераў у каталіцкіх раёнах. Лідары групы лічаць, што легальнымі сродкамі наркамафію не спыніць, і робяць стаўку на тэрор. Так, RAAD паведаміла, што ўсе дылеры, якія будуць прадаваць наркотыкі пасля 1 чэрвеня 2011 года ў Дэры, будуць забітыя. 1 чэрвеня RAAD увогуле патрабавала ад усіх дылераў на працягу 48 гадзін пакінуць Дэры. Пасля гэтага паліцыя інфармавала пра спробы страляць па гандлярах наркотыкаў. Нарэшце, у лютым 2012 года адзін з дылераў быў забіты.

Паколькі паліцыя не падзяляе метадаў RAAD і вымушана перасьледаваць змагароў, паліцэйскія хутка таксама сталі ворагамі байцоў з наркотыкамі. У чэрвені гэтага года яны ўзарвалі паліцэйскую машыну на знак пратэсту супраць «ціску на рэспубліканцаў і іх сем'і».

Continuity IRA (CIRA) — яшчэ адзін удзельнік аб'яднання — вядомы з 1986 года, калі ў шэрагах IRA выбухнула спрэчка наконт дэмакратычнасці прыняцця рашэнняў. Адна з фракцый вырашыла, што змагацца за незалежнасць яна зможа асобна, і стварыла CIRA. CIRA выступае супраць усялякіх пагадненняў з Лонданам і патрабуе аб'яднання Ірландыі хоць заўтра.

Адпаведна заяве, усе пералічаныя суб'екты ствараюць структуру пад адзіным кіраўніцтвам. Новае аб'яднанне таксама прэтэндуе на тое, каб называцца Ірландскай Рэспубліканскай Арміяй (IRA). Заява, на першы погляд, дастаткова амбіцыйная, паколькі гістарычная IRA — легендарная армія, якая змагалася супраць брытанцаў падчас вайны за незалежнасць у 1918–1921 гадах. Аднак, з іншага боку, тут няма нічога дзіўнага. Шмат якія групы рэспубліканцаў горда называлі сябе IRA.

Галоўная мэта новай IRA — інтэграцыя ірландскай нацыі ў адну дзяржаву, чаго можа дасягнуць толькі пасля таго, як Паўночная Ірландыя пазбавіцца «брытанскай прысутнасці».

Як гэтага дабіцца? Вельмі проста. Адпаведна дакументам новай арганізацыі, рэцэпт у тым, каб «надаць інтэнсіўны характар акцыям супраціву службам бяспекі і іншым аб'ектам і асобам, якія з'яўляюцца сімваламі брытанскай прысутнасці ў Паўночнай Ірландыі».

Яшчэ адной мішэнню для атак можа стаць кіраўніцтва Ірландскай Рэспублікі. У заяве новай кааліцыі даецца наступная характарыстыка цяперашняму ірландскаму палітычнаму істэблішменту: «У апошнія гады кіраўніцтва незалежнай Ірландыі займае больш сціплую пазіцыю ў пытанні нацыянальнага аб'яднання, паколькі страціла якасці лідарства, забылася пра ідэі ірландскага рэспубліканізму і вядзе фракцыйную дзейнасць сярод рэспубліканцаў».

Нарэшце, не выключана, што новая IRA пачне атакаваць сваіх. У тых жа ўстаноўчых дакументах вялікая адказнасць за адсутнасць адзінства Ірландыі кладзецца на партыю «Шын Фейн» — палітычную вітрыну арганізацыі IRA. На думку «новых рэспубліканцаў», МакГінэс і кампанія прадалі ірландскі народ, каб атрымаць міністэрскія пасады ў Стармонце (Стармонт — замак, дзе праводзяцца пасяджэнні ўраду Паўночнай Ірландыі). Ідэолагі новай IRA адносяць «Шын Фейн» да катэгорыі «агенты брытанскай кароны».

У прынцыпе, нічога новага ў тым, што адны рэспубліканцы змагаюцца з іншымі, няма. Прэса лічыць, што некаторыя з сузаснавальнікаў новай IRA датычныя да забойства ў 2010 годзе каталіка, які падаўся на паліцэйскую службу Паўночнай Ірландыі, што, на думку рэспубліканцаў, з'яўляецца вышэйшай формай здрады. Актывістаў Republican Action Against Drugs абвінавачваюць у шэрагу замахаў на маладых католікаў, якіх падазраюць у продажу наркотыкаў.

На думку большасці аналітыкаў, новая IRA, нягледзячы на ваяўнічыя дэкларацыі, не ўяўляе вялікай пагрозы для публічнага парадку і мірнага палітычнага працэсу ў рэгіёне. Сапраўды, калі паглядзець на спіс акцый усіх пералічаных груповак, то за выключэннем забойства некалькіх паліцэйскіх і таго выбуху ў Ома, акцыі хутчэй нагадваюць дробныя хуліганскія ўчынкі.

Аднак некаторыя заклікаюць быць больш асцярожнымі ў прагнозах. Па-першае, экстрэмісты ўпершыню ад часу падпісання Дамовы вялікай пятніцы здолелі знайсці агульную мову і аб'яднаць чалавечыя і тэхнічныя рэсурсы. Як піша газета «Guardian», іх патэнцыял складае некалькі сотняў чалавек, сярод якіх ветэраны супраціву, якія добра разумеюць падрыўную тэхніку і законы канспіратыўнай працы.

Але самую вялікую крыніцу небяспекі ўяўляюць наступствы цяперашняй эканамічнай дэпрэсіі. Так, у шматлікіх каталіцкіх гарадках, кшталту Дэры, амаль 40 працэнтаў моладзі беспрацоўныя. Яны не ведаюць часоў вайны, наўрад ці разумеюць каштоўнасць міру і фактычна з'яўляюцца адраснай групай для прапаганды радыкалаў. Левая прэса Вялікабрытаніі ўжо пераклала адказнасць за ажыўленне рэспубліканскага экстрэмізму на кансерватыўны кабінет Дэвіда Кэмерана, які праводзіць палітыку сацыяльных скарачэнняў.

Увогуле, на думку прэсы, аб'яднанне радыкалаў нагадвае, што мірны працэс не закончаны і павінен быць падтрыманы звонку.

Магчыма, першым тэстам на здольнасці новай IRA стане традыцыйны ў Вялікабрытаніі фестываль — Дні брытанскай культуры, сталіцай якой у наступным годзе абвешчаны ўсё той жа горад Дэры.

СКАНДАЛ

# ПАЛЮБІЛА Я НАЦЫСТА

Алег НОВІКАЎ

**Нямецкая грамадства падзялілася на праціўнікаў і прыхільнікаў Надзі Дрыгала — спартсменкі, выключанай з алімпійскай зборнай за любоў да неанацыстаў.**




У разгар лонданская алімпіяды Надзя была выключаная са складу нямецкай алімпійскай зборнай па веславанні пасля таго, як прэса высветліла некаторыя цікавыя фрагменты яе біяграфіі. Спартсменка доўгі час круціць раман з адным з лідараў секцыі праварадыкальнай Нацыянал-дэмакратычнай партыі (NPD) у зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. Праз яго яна таксама мела кантакты з іншымі неанацыстамі. Менавіта з-за гэтага яе не прынялі на службу ў паліцыю ў 2011 годзе.

Аднак на радзіму Надзя вярнулася як медыя-зорка. За ёй палююць папарацы і журналісты, яна дае інтэрв'ю вядучым СМІ, яе біяграфію дасканала вывучаюць. Не кожны прызёр Алімпіяды можа ганарыцца такой славай.

Нямецкая грамадства эмацыйна сустрэла рашэнне пра выключэнне Надзі з каманды. Шматлікія бюргеры лічаць, што з 23-гадовай дзяўчынай абышліся занадта жорстка, а сама яна не ў чым не вінаватая. У Facebook хутка была створаная група «Салідарнасць з Надзей Дрыгала», да якой на працягу некалькі дзён далучылася больш за 6 тысяч сяброў. У інтэрнэце таксама можна сустрэць шмат петыцый на адрас прэзідэнта ФРГ з патрабаваннем рэабілітацыі спартсменкі.

Аргументаў у абарону Надзі ў яе прыхільнікаў шмат. Пачаць можна з таго, што яе каханак, з-за якога ўсё распачалося, яшчэ ўвесну паклаў партбілет NPD на стол. Сама Надзя ніколі афіцыйна сябрам партыі не была і пагрозы для грамадства не ўяўляла. Інакш бы цяпер за яе не заступіўся прэм'ер зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. Гэта не адзіны адвакат спартсменкі ў калідорах высокай улады. За спартсменку таксама паручыўся міністр абароны і нават некаторыя дэпутаты ад сацыял-дэмакратаў, якіх наўрад ці можна падазраваць у сімпатыях да ўльтраправых.

Ёсць думка, што дзяржава папросту помсціць спартсменцы за тое, што сама не здольная забараніць NPD. Нагадаем, што заклікі да забароны гэтай вядучай нямецкай партыі праварадыкалаў гучаць даўно. Аднак, здаецца, у Берліне баяцца пропуску арганізацыі. NPD выконвае важную функцыю ў маніторынгу за правымі экстрэмістамі, збіраючы ўсю такога кшталту публіку пад адным дахам. Гэта дазваляе спецслужбам, агентамі якіх напоўненыя структуры партыі, неяк кантраляваць правую радыкальную сцэну.

Такім чынам, забараніць NPD праблематычна, аднак чыноўнікам трэба дэманстраваць супраць яе актыўную дзейнасць. Тут ім і аказалася карысная гісторыя кахання дзяўчыны. У выніку, як лічаць абаронцы Надзі, спорт стаў полем палітычных разборак.

Увогуле, пішуць некаторыя, як дзяржава можа асуджаць кантакты з сябрамі NPD, калі нацыянал-дэмакраты — частка дзяржавы? NPD, нагадаем, мае фракцыі ў двух зямельных парламентах і шмат мясцовых дэпутатаў на Усходняй Германіі. Пры гэтым цэнтральныя і мясцовыя органы ўлады ўвесь час маюць з дэпутатамі-эндэкамі нейкія адносіны. Аднак чамусьці тых бюракратаў, у адрозненні ад Надзі, не асуджаюць і з працы не звальняюць.

Нехта лічыць, што папросту неэтычна ўсім атакаваць дзяўчынку. На думку шмат каго, такі падыход (асабліва высылка з Лондану) пазбаўляе Надзю права на другі шанс у жыцці. Можна было знайсці іншы метад заспакоіць грамадства.

Нарэшце, у гэтай гісторыі ёсць этычны момант. Фактычна дзяржава і грамадства спрабуюць кантраляваць інтымнае жыццё грамадзян.

На ўсе гэтыя аргументы ёсць мноства контраргументаў. Так лева-ліберальная газета «Tagesspiegel» адзначае, што Надзя Дрыгала «або дурная, або занадта наіўная, або сапраўды чалавек, хворы на правы радыкалізм». «Толькі такі чалавек мог лёгка інтэгравацца ў асяроддзе людзей, якія праслаўляюць самыя чорныя часы ў гісторыі Германіі», — піша газета.

Ліберальная газета «Der Welt» звяртае ўвагу на тое, што рабілі неанацысты Усходняй Германіі ў часы знаходжання Дрыгала ў праварадыкальным асяроддзі. Як піша журналіст, Надзя як сябра прарадыкальный групоўкі мусіла ведаць пра падпалы яе сябрамі інтэрнатаў для іншаземцаў, у выніку чаго загінулі людзі, і нават дзеці. Ёй дакладна было вядома пра забойствы неанацыстамі паліцэйскіх. Аднак чамусьці «невінаватая» гэту інфармацыю ігнаравала, і нават не паспрабавала пакінуць тусоўку.

Крытыкі Надзі спасылаюцца на дадзеныя актывістаў антыфа з Мекленбург — Пярэдняя Памеранія, якія ўвесь час робяць маніторынг сваіх праціўнікаў. Па іх словах, Дрыгала была сталым удзельнікам групы. У якасці доказу яны прыводзяць здымкі з яе старонак у сацыяльных сетках, якія цяпер, зразумела, выдаленыя. На іх мускулістая дзяўчына, апранутая па модзе скінхедаў. У яе руках біта, а надпіс пад фота яўна агрэсіўнага характару.

Не вераць антыфа ў тое, што хлопец Надзі сапраўды адмовіўся ад карычневых забабонаў. Хаця ён сапраўды выйшаў з партыі ў маі, 16 чэрвеня на праварадыкальным сайце з'явілася яго ксенафобская нататка. Аўтар заклікае ўсіх адсвяткаваць высылку з ФРГ нейкага нелегальнага эмігранта.

Нямецкі саюз журналістаў (DJV) зрабіў спецыяльную заяву пра пазіцыю сваіх сябраў, якую за атаку на Дрыгала некаторыя называюць паляванне на ведзьмаў. Як гаворыцца ў дакуменце, алімпійская зборная ўвасабляе лепшыя якасці нацыі і з'яўляецца яе прыкладам. Таму цалкам лагічна, што журналісцкая каманда ставіць пытанне наконт асабістых момантаў біяграфій некаторых сяброў зборнай.

Яшчэ адзін козыр у руках тых, хто асуджае Надзю: яе актыўна кінуліся падтрымліваць правыя радыкальныя выданні. На той жа старонцы «Салідарнасць з Надзей Дрыгала» можна сустрэць лінкі на ісламафобскія сайты. Відавочна, карычневыя намагаюцца выкарыстаць хвалю салідарнасці, каб зняць табу са свайго руху, падарваць аўтарытэт дэмакратычных СМІ. Яны, дарэчы, гэтага і не хаваюць. «З якіх часоў антыфашызм замяніў нам канстытуцыю?» — пытаецца газета новых правых «Junge Freiheit». Правая прэса таксама лічыць, што пошук кампрамату на спартсменаў «можа падарваць іх псіхалагічны стан». Па іх словах, калі пакапацца ў мінулым кожнага чалавека, можна абавязкова нешта знайсці.

Пакуль не зразумела, чым скончыцца бітва вакол Надзі. Тым больш, гісторыя абрастае новымі дэталямі і скандаламі. Цяпер усе сварацца з-за выявы нейкай дзяўчыны ў шэрагах маніфестантаў NPD на адной з акцый у 2009 годзе. Антыфашысты сцвярджаюць, што гэта Надзя. Яна катэгарычна тое адмаўляе. Увогуле, у сваім апошнім інтэрв'ю яна кажа, што палітыка не мела для яе вялікага значэння ў адносінах з Міхаэлем Фішарам (так завуць яе бойфрэнда). Тое, што адбываецца апошнім часам, па яе словах, выглядае для яе вельмі дзіўна. Яна кажа, што хацела пабыць у спакоі, каб у верасні зноў пачаць трэніроўкі. Па яе словах, чыноўнікі нямецкай федэрацыі веславання прызначылі ёй сустрэчу на гэты час.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АНДРЭА ФАБРА



Дэпутатка іспанскага парламенту ад кансерватыўнай Народнай партыі (PP) забяспечыла сабе месца ў гісторыі айчыннага парламентарызму пасля таго, як з галоўнай трыбуны лаялася на левую апазіцыю. Яна прапанавала сацыялістам заняцца сэксам самімі з сабой. Цытата выклікала вялікі рэзананс, асабліва сярод прафсаюзаў і беспрацоўных, паколькі была сказаная падчас дэбатаў пра пакет законаў пра скарачэнне сацыяльных гарантый. Сацыялісты прапанавалі Андрэа пайсці ў адстаўку. Прафсаюзы выйшлі на дэманстрацыю з транспарантам — "Самі займайцеся сэксам з сабой". Сатырычныя прэса піша, што дэпутатка рассакрэціла праграму ўраду. Сама віноўніца скандалу кажа, што яна папросту выкарыстала выраз, які часта чула ад свайго таты, і не хацела нікога пакрыўдзіць. Між тым, прэса ўстанавіла, што лаянка — звычайная справа для палітыка. Раней падчас дэпутацтва ў Валенсіі яна назвала спікера-сацыяліста бастардам. А таксама абяцала дэпутатам ад партыі Аб'яднаныя левыя задаволіць малую патрэбу на іх месцы ў парламенце.

### ПЁТР СІМАНЕНКА



Лідар украінскіх камуністаў паабяцаў у выпадку перамогі яго партыі на восеньскіх парламенцкіх выбарах пераглядзець дзяржаўную сімволіку, а менавіта адмовіцца ад цяперашняга гербу «Трызуб». Свой намер ён пракаментаваў у класічных камуністычных традыцыях: «З гэтымі сімваламі Гітлера сустракалі». Абяцанне правадыра КПУ выклікала жорсткую крытыку. Нават памяркоўныя аналітыкі пабачылі тут замах на дзяржаўныя інстытуты Украіны, якія будаваліся 20 гадоў. У дадатак усе згадалі, што менавіта дэпутаты-камуністы падчас прыняцця Канстытуцыі, якая надала «Трызубу» статус герба, далі лібералам (аўтары праекту Асноўнага закона) неабходным галасы. А найбольш радыкальныя антыкамуністы ў асобе лідара крымскіх татараў увогуле рыхтуюцца падаць на Сіманенку ў суд.

### ХІЛАРЫ КЛІНТАН



Адносіны паміж ЗША і Кітаем у чарговы раз сталі больш напружанымі. Усё таму, што дзяржсакратар Злучаных Штатаў Хілары Клінтан у мінулыя выходныя завяршыла турнэ па краінах Чорнага кантынента, падчас якога раскрытыкавала краіны, якія «даюць Афрыцы грошы і не клапоцяцца пра тое, што гэтыя сродкі трапляюць у рукі аўтарытарных кіраўнікоў». Хоць Клінтан не назвала наўпрост ніводную дзяржаву, у Пекіне прынялі яе словы на свой рахунак, абвінаваціўшы Вашынгтон у спробе «забіць клін паміж Кітаем і Афрыкай».

Адной з галоўных прычын такой увагі ЗША да Чорнага кантынента стала ўмацаванне ў шэрагу яго рэгіёнаў ісламістаў, тлумачыць часопіс «Улада». Аднак ужо пасля першага публічнага выступу Клінтан стала зразумела, што Вашынгтон баіцца не столькі іх, колькі кітайцаў.

У 2011 годзе аб'ём гандлю паміж КНР і Афрыкай склаў рэкордных 166 мільярдаў долараў, павялічыўшыся ў чатыры разы ў параўнанні з 2006 годам. Аб'ём прамых інвестыцый КНР у 50 афрыканскіх краін па выніках 2011 года ацэньваецца ў 15 мільярдаў долараў.

Падчас сваёй паездкі Клінтан паспрабавала растлумачыць афрыканцам, што такія адносіны з КНР не ў іх інтарэсах. Па яе словах, ЗША прапануюць Афрыцы «партнёрства, а не патранат». «Мы жадаем стварыць мадэль устойлівага партнёрства, якое будзе прыносіць вам дададзеную вартасць, а не канфіскоўваць яе. Дні, калі чужынцы прыходзілі ў Афрыку і здабывалі выгаду, нічога не пакідаючы за сабой, павінны скончыцца», — заявіла Клінтан падчас выступу ва ўніверсітэце сенегальскай сталіцы Дакара. Дзяржсакратар ЗША таксама нагадала афрыканцам пра неабходнасць абараняць дэмакратыю і правы меншасцяў — праблемы, якія КНР, да радасці шматлікіх афрыканскіх урадаў, ігнаруе.

ЦІКАВА

# МАСТАЦКІ КОД ПРЫСУТНАСЦІ

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Вартасць народа вызначаецца не тым, што ён пра сябе намысліў альбо што намовіў ягоны вярхоўны шаман, але тым, чым ён засведчыў сябе, што прыўнёс у развіццё чалавецтва, мастацтва.**

**Беларусам пашэнціла — яны маюць два ўніверсальныя, агульнаеўрапейскага кшталту творы. Гэта «Жніво» мастака з Заходняй Беларусі Міхася Сеўрука. І «На Купаллі» мастака, зноў жа з Заходняй Беларусі, Кузьмы Чурылы. Творы аднаго філасофскага коду — своеасаблівага мастацкага коду прысутнасці беларусаў у свеце.**

**Але калі карціна «Жніво» была і ёсць, то над творам «На Купаллі» — таемная завеса. Ёсць ці быў? А мо дзе тоіцца ў чыёйсьці прыватнай калекцыі?**



Кузьма Чурыла. «На Купаллі»

## Квітненне папараці

Жніво і Купалле — два знітаваныя між сабой святы.

Жніво для беларусаў — значна больш, чым проста свята ўраджаю. Жніво — падсумаванне вынікаў, калі хочаце, катэгорыя філасофская. Па вялікім рахунку, падрыхтоўка да яго ідзе ўвесь папярэдні год. Фармальна ж пачатак яму дае Купалле, якое засцерагае фізічны і духоўны плён чалавека альбо народа ад згубы.

Купалле — макавінка лета. Купалле — своеасаблівы абярэг. Са спадчыны сівой старажытнасці гэта, бадай, самае звонкагалосае, перапоўненае магічна-абрадавымі дзеяннямі — спевамі, скокамі і варажбой — свята, якое ладзілася ў гонар цудадзейнага саюзу жыватворнай вады і жыццядайнага сонца, плёнам якога было і ёсць жыццё.

Апафеоз Купалля — шуканне чароўнай кветкі папараці. Грунтуецца гэты паэтычны міф на спораўным спосабе размнажэння папараці. Той папараці, у якой споры не на ніжнім баку ліcця, а на асаблівай мяцёлцы, якая нагадвае кветку (так званая Каралеўская папараць захавалася ў Белавежскай пушчы і занесена ў Чырвоную кнігу).

Кветка папараці распускалася раз на год і вяртала чалавека ва ўлонне матухны-прыроды. Уладальнік яе пачынаў разумець шум дрэваў, мову жывёл, птушак, мог бачыць схаваныя пад зямлёй скарбы. Але без цяжкасцяў збіраў тыя кветкі хіба добры Купальскі Дзядок…

## Стыхія фарбаў

Не засталася без увагі новых прафесійных формаў увекапомнення народна-драматургічная дзея Купалля з боку мастакоў. Бясспрэчнае першынство на гэтай ніве належыць таленавітаму творцу — жывапісцу, графіку, этнографу і педагогу Міхасю Філіповічу (1896–1947).

Да гаючай крыніцы народных светаўяўленняў, філасофіі мастак прынік яшчэ задоўга да таго, калі напачатку 1930-х гадоў быў абвінавачаны крытыкай у «нацдэмаўшчыне» і неразуменні класавай сутнасці беларускага савецкага мастацтва. Тады ж, у 1920-я гады, Філіповіч стварыў шэраг палотнаў на этнаграфічныя матывы. Сярод іх «Вясна», «Карагод», «Народнае гулянне», «Скокі праз вогнішча», «На Купаллі» і іншыя, пазначаныя моцнай тэатральна-драматургічнай экспрэсіяй. Будучы па сутнасці мастаком авангарднага мыслення, Міхась Філіповіч, па выразу мастацтвазнаўцы Ларысы Міхневіч, «увёў „варварскую" архаіку, старажытную магію, прымітыў, фальклор — сферы, якія раней існавалі па-за межамі класічнай культуры».

Ужо ў сучаснай Беларусі да тэмы свята летняга сонцастаяння звярталіся многія творцы, і перадусім сябры суполкі «Пагоня» — А. Марачкін, В. Маркавец, С. Цімохаў, А. Пушкін і інш.

## З таго берага

Зараз жа згадаем недастаткова знанага заходнебеларускага мастака Кузьму Чурылу, жывапісца і графіка, з чыіх прац, а менавіта з «Партрэта віцэ-бурмістра Вільні Вітольда Чыжа», добра вядомага ў беларускіх адраджэнскіх колах як пісьменніка-нашаніўца Альгерда Бульба, пачыналася калекцыя Віленскага мастацкага музея (цяпер ЛДММ).

Распавядаючы пра «купальскі» твор Чурылы, не ўбачаны ні беларускімі гледачамі, ні гісторыкамі нацыянальнага мастацтва, дазволім сабе хоць бегма нагадаць асноўныя этапы жыцця гэтага выдатнага майстра.

Перад тым, як трапіць на факультэт выяўленчага мастацтва ў Вільню (1928), хлопец з Крутога Берага, што пад Сновам, Кузьма Чурыла пешкі адтаптаў па 7 кіламетраў да Нясвіжскай гімназіі.

Студэнцкае навучанне закончылася для яго ў 1936 годзе паказам на дыпломным праглядзе бліскучай рамантыка-рэалістычнай працы «Копка бульбы» (ЛДММ). Напрыканцы 1930-х гадоў трывалы ўдзельнік усіх тагачасных супольных выстаў у Вільні, адзін з сябраў-заснавальнікаў «Групы Віленскай», Кузьма Чурыла атрымаў стыпендыю Фундацыі нацыянальнай культуры для гадавой стажыроўкі ў Францыі ды Італіі.

## Купалінка, Купалінка, цёмная ночка…

Перадусім адзначым, што твор гэты ад самага пачатку пакідае шмат загадак. І не толькі сваім зместам: аб'яднаннем у межах мастацкай прасторы «Купалля», сімвалічным насычэннем, уласцівым святам-абрадам некалькіх цыклаў (вясны —лета — восені), паяднаннем паганскіх матываў з хрысціянскай сімволікай (крыжам).



Uniwersytet Mikołaja Kopernika w Toruniu
pieczęć podłużna wystawcy

Uprawnia do przejazdów kolejami państwowymi według ulg taryfowych dla funkcjonariuszów państwowych

Legitymacja Nr 179

Art. mal. Czuryło
nazwisko

Koźma
imię (imiona)

Prac. kontr. ml. asystent
stanowisko (tytuł służbowy)

w Uniwersytecie M. Kopernika

Toruń, dn. 1 czerwca 1948

Rektor

podpis

K Czuryło
Podpis własnoręczny

Ważna na rok wystawienia
Ważność legitymacji przedłuża się na rok

m. p. 31.VIII 19 48 | m. p. 30.9 19 49 r. | m. p. 31.XII 19 49 r. | m. p. 31.VIII 19 50 r.

«На Купаллі» — у тым варыянце, што вядомае па прыватным зборы, — вартае не толькі таго, каб у яго пільна ўглядаліся, але і вывучалі самым сур'ёзным чынам.

Мяркуйце самі. Перадаючы сюжэт, мастак засяроджвае сваю ўвагу не на самым зыркім моманце па карнавальнаму яркай, драматургічнай дзеі. Абмінаючы падрыхтоўчую частку купальскага рытуалу — ад песенна-карагодных абходзінаў з запрашэннем на свята, кіданнем вянкоў, збору за вёскай, на высокім месцы і здабычай «жывога» агню (трэннем дрэва аб дрэва), частавання абрадавымі стравамі (яечняй), варажбы і пляцення вянкоў да скокаў праз вогнішча ды «парнага» паходу на пошук «папараці» — Чурыла абірае не відовішчны, кідкі, але сэнсава багаты і выразна настраёвы момант самаасэнсавання, які ўжо ў нашы дні ўлавіла чуйная душа паэта і ўвасобіла ў радках:

*Час памарыць, адпачыць,*
*пільней прыглядзецца*
*Да зіхоткіх, вечных зор*
*над галавою.*
*Мо з каўша свайго Вялікая*
*Мядзведзіца*
*На душу ліне касмічнага спакою.*

## Сюжэт

Замкнёная ў авал сюжэтаўтваральная кампазіцыя маляўнічаaскетычнага палатна ўяўляе сабой узаемадзеянне паасобных сцэнаў, побытавых фрагментаў з жыцця вяскоўцаў.

Вось, не звяртаючы ўвагу ні на каго, маладзіцы бяруць ваду з крыніцы, што бруіць з-пад дрэваў… Вада — стыхія, без якой не мажлівы пераход чалавека ні ў іншасвет, ні вяртанне душы ў свет жывых. Таму шматлікія крыніцы, азёры і нават калодзежы ў беларусаў мелі сакральны характар.

Вось жанчына адпачывае ў намёце.

Вось каня вядуць, відаць, на выпас. Да пары з ім ці не тая, добра вядомая з беларускага фальклору, «чароўная белая кабыліца», што крала «сена са стога каля дуба». У купальскім абрадзе конь — хіба дапаможны ў вывазе «ламачча» на вогнішча. Конь — прыкмета святароў, ваяроў і земляробаў — адыгрываў істотную ролю ў варажбе, а касмалагічныя ўяўленні беларусаў нітавалі яго з богам Сонца Ярылам (дарэчы, водгулле гэтых уяўленняў захаваліся ў палескім абрадзе Купалля). Конь — увасабленне астранамічных уяўленняў беларусаў. Палярная Зорка сузор'я Вялікай Мядзведзіцы, пад якой разгортваецца дзея, у паўночных беларусаў мела назву Калясвіца (Кола).

Слуп дыму, што ўздымаецца ад цяпельца, неяк сузвыш выпадкова зарыентаваны на тую зорку (вось Сусвету). На другім плане палатна, якраз па цэнтры кампазіцыі — вазок, калёсы. Не будзем сцвярджаць, што на ім ездзіў бог навальніцы і маланак Пярун, а ў хрысціянскія часы — святы Юр'я (альбо Ягорый), дзень якога святкавалі 6 мая.

З правага боку (правай куліcы) кіруе юнак, трымаючы нешта накшталт зажынкавага снапа…

Жанчына завіхаецца, раздзьмухваючы «правільна» разведзенае вогнішча, якое з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі.

Углядаецца ў яго мужчына — здабытчык таго правільнага агню… А мо гэта Купальскі Дзядок — Лясун, што ходзіць з поўным кошыкам цудадзейных кветак і зрэдзь часу дорыць па адной чарговаму «абранаму», і тады шчаслівы ўладальнік яе атрымлівае дар — ведаць пра ўсё на свеце. Дзе якія скарбы ляжаць? Як да іх прыступіцца? Якія закляцці на іх накладзены? Як іх адчараваць?

Вось аголеная маладзіца з прывабнымі формамі задуменна-мройліва ляжыць якраз перад вогнішчам, як бы замыкаючы ўмоўнае (гарызантальнае) кола… Замыкае кола (кампазіцыю), але і працягвае лінію жыцця, пэўным чынам «апярэджваючы» яго: ля маладзіцы, што прыйшла на «ноч вольнага кахання», ужо корпаецца немаўля…

Усё гэта адбываецца пад зорным небам, у фантастычнай, смарагдава-нефрытавай цішыні ліпеньскай ночы. Пад акампанемент таямнічых, мядзяна-арганных сполахаў на зямлі, на дрэвах, удзельнікаў рытуалу…

# БЕЛАРУСАЎ

Дадамо, у межах натурнай неакласіцыстычнай дэкарацыі.

На мяжы XIX–XX стагоддзя, як заўважаюць мастацтвазнаўцы, творцы губляюць цікаўнасць да выяўлення краявіду (гэта не тычыцца маладых і посткаланіяльных культур...). Але натура па-ранейшаму застаецца важкім чыннікам сюжэтнай карціны, пра смерць якой гавораць ужо не першае стагоддзе. Краявід, як след, становіцца менш прыродна-натуральным, больш дэкарацыйным, «недамоўленым», ідэйна насычаным і абгрунтаваным. Гэта асаблівá заўважна на прыкладзе твораў мастакоў з Заходняй Беларусі: асобныя з іх неслі ў сваёй творчасці прыкметы стылю настаўніка — Людаміра Сляндзінскага. На пачатку стагоддзя з энергічным распаўсюдам імпрэсіянізму мастакі ўсё часцей апелявалі да навукі, да наяўнасці якогасьці асноватворнага натуральнага парадку.

Пераведзеная ў графічную схему кампазіцыя твора Чурылы, разам з адкрытымі «кулісамі» неакласіцыскага краявіду (размкнёным вертыкальным авалам) дае ўяўленне аб сімвалічнай будове атама ў планетарнай мадэлі, дзе электроны (прысутныя ўдзельнікі таемнасці — гарызантальны авал) утвараюць замкнёны эліпс вакол ядра (у нашым выпадку вакол вогнішча).



Студэнты Віленскага ўніверсітэта, група Кузьмы Чурылы. 1931

## Да пытання стварэння палатна

Што да версіі стварэння гэтага твора, дык, падобна, задуманы ён быў яшчэ задоўга да стажыроўкі ў Францыі і Італіі ў 1938 годзе. У часы так званых беларускіх «нефармальных пленэраў» у Лошы.

Справа зусім не ў кампазіцыйным дыялогу твораў: паўторы матыву «набірання вады» (сімвалічнага ачышчэння), перагукванні вобраза спраўджанай маці ў Сеўрука і будучай маці ў Чурылы і інш. І нават не ў тым, што ў Сеўрука ёсць непасрэдная адсылка: самастойны эцюд, які літаральна паўтарае фрагмент агульнага сюжэта Чурылы. (Нагадаем, сваё знакамітае «Жніво», па ўласным прызнанні, мастак пісаў вельмі хутка — «без накідаў, эскізаў і падмалёвак). Паралелі і аналогіі ў гэтых творах можна было б доўжыць і доўжыць. Рэч у тым, што сюжэт Купалля не даваў спакою мастаку гэтак жа моцна, як трымала «Жніво» Сеўрука.

Замыслüшы сюжэт у міжваеннай Лошы, наўрад ці мастак быў апантаны ім у часіны ваеннага ліхалецця (але гэта толькі меркаванне). Праца над палатном была працягнута пасля ўцёкаў з вызваленай Саветамі Віленшчыны ў 1944 годзе.

У Паморскай, паўночна-заходняй Польшчы (на землях «адзысканых»), на «новай радзіме» мастака — Торуньшчыне асноўным насельніцтвам былі кашубы. Іх яркі тэатралізаваны купальскі абрад, «собутка» — «пакаранне каршука» быў сплавам паганскіх традыцый з рытуаламі каталіцкай царквы, дзе ўдзельнічалі такія персанажы, як ксёндз, арганіст, кат. Гэта інтрыгавала, казытала фантазію. Але асновай для працы былі добра абдуманыя натурныя ўражанні, прывезеныя выгнаннікам з ліцвінскага краю, з Віленшчыны. У няпростых жыццёвых умовах давялося мастаку заканчваць сваю працу «На Купаллі».

Падаецца, што адметнай асаблівасцю заходнебеларускіх творцаў, у дадатак да шырока распаўсюджанага сакральнага жывапісу, якраз і быў гэты пошук асноватворнага парадку.

Бо падобных, сюжэтных змястоўна-майстэрскіх твораў, пабудаваных на звычайным жыццёвым матэрыяле, якія б сягалі па ўзроўні мастацкага абагульнення да вышыняў сусвету, лічаныя адзінкі ва ўсім беларускім мастацтве.

## Пасляслоўе

У 1951 годзе ў Быдгашчы і Торуні адбылася пасмяротная выстава жывапісу і графікі Кузьмы Чурылы, якая складалася з 127 твораў. Таксама быў выдадзены сціплы каталог з уступным словам кіраўніка кафедры графікі Універсітэта імя Каперніка Ежы Гапена. Выстава, якая мусіла быць перасоўнай, знікла пры нявысветленых абставінах, а разам з ёю знікла, відаць, і карціна Кузьмы Чурылы «На Купаллі». Ці, можа, дзе захавалася? Дзе-небудзь тоіцца ў чыйсьці прыватнай калекцыі?

СУАЙЧЫННІКІ

# Людміла Клімовіч: «СПАДЗЯВАЦЦА ТРЭБА НА МОЛАДЗЬ»

**На Зялёнай вуліцы ў Слоніме жыве цікавая жанчына, былая настаўніца роднай мовы і літаратуры Людміла Антонаўна Клімовіч. Людміла Антонаўна — сястра доктара навук, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, пісьменніка Алега Лойкі. А яшчэ Людміла Антонаўна вельмі любіць свой родны Слонім, Беларусь, добра ведае сваю гісторыю і людзей. У яе доме часта бываюць беларускія літаратары, гісторыкі, педагогі, медыцынскія работнікі і простыя слонімцы. Госцем у хаце Людмілы Клімовіч пабываў і наш карэспандэнт Сяргей Чыгрын.**



Людміла Клімовіч (у цэнтры) чытае вершы брата Алега Лойкі

***— Людміла Антонаўна, ці адрозніваюцца чым-небудзь сённяшнія беларусы ад беларусаў 1940-х —1970-х гадоў?***

— Амаль што нічым, але... Да вайны ніхто, напрыклад, у Слоніме і ў навакольных вёсках ніколі не казаў брыдкіх слоў і не ведаў іх — я маю на ўвазе матаў. І толькі пасля вайны, калі прыйшлі Саветы, слонімцы ды і ўсе беларусы пачалі мацюгацца. Пасля вайны ў Слоніме шмат было пустых яўрэйскіх дамоў, куды засяляліся «мяшэчнікі». А разам з «мяшэчнікамі» прыехалі і брыдкія словы.

«Мяшэчнікамі» мы называлі людзей з Браншчыны, Смаленшчыны і з іншых усходніх абласцей, якія прыязджалі сюды па хлеб. У пустыя дамы ў Слоніме яны засяляліся і жылі, а з часам прапаўладкоўваліся.

***— Няўжо там ім не было чаго есці?***

— Відаць, не было. Бо там савецкая ўлада гаспадарыла яшчэ да вайны. І вынікі яе — голад. Ды і гэта былі зусім іншыя людзі. У іх быў іншы погляд на жыццё, і яны вельмі адрозніваліся ад карэнных працавітых і сумленных беларусаў. Ды і смяяліся яны з нашай мовы, нашай культуры і з таго, што мы носім гальштукі. І мой нябожчык-брат Алег Антонавіч Лойка нават пад вянец пайшоў без гальштука, бо баяўся, каб з яго не смяяліся. Гэта былі людзі кволай культуры. Але цікава, што ўсе яны атрымалі ў Слоніме і ў іншых гарадах Беларусі працу.

***— Тым не менш, хлебам беларусы з імі дзяліліся?***

— Вядома. У крыўду ўсходнікаў не давалі.

***— Якую школу ў Слоніме вы закончылі?***

— Першую беларускую школу. А калі адчынілася школа №2, дык многіх вучняў клікалі туды. І тых, хто пераходзіў у другую школу, называлі русакамі. Мы з імі асабліва не сябравалі. Наша школа на той час была самая ганаровая і прэстыжная ў Слоніме. Пакуль яна была БСШ — яна была заўсёды першай, а цяпер гэта проста ліцэй №1. Калі з'явілася ў Слоніме школа №2 — сталі яе ўзнімаць, а пасля сталі ўзносіць школу №4. Прывяду прыклад. Кожны год сярод школ праходзіў конкурс мастацкай самадзейнасці. І бадай што заўсёды перамагала чацвёртая школа. Я тады працавала ў другой школе. І да нас у калектыў прыйшла новая настаўніца, якая выдатна арганізавала канцэрт. Але журы ў той год, калі выйграла другая школа, вырашыла першае месца не прысуджаць нікому. А чаму? Ды таму, што чацвёртую школу ўзначальваў Трафімовіч, а ён быў дэлегатам партыйнага з'езду ў Маскве.

***— А чаму вы не працавалі ў сваёй роднай першай школе, а ўсё жыццё аддалі другой?***

— У другой школе тады настаўніцай роднай мовы і літаратуры працавала Феафанія Лявонцьеўна Ракевіч. Яна пайшла ў раённы аддзел адукацыі і сказала: «Калі на маё месца вы не паставіце Людмілу Антонаўну Клімовіч, то я на пенсію не пайду». І мяне прызначылі на яе месца.

***— Давайце яшчэ раз вернемся ў той час, калі вы вучыліся ў першай школе. Сёння вашы аднакласнікі і старэйшыя на год-два і крыху маладзейшыя выпускнікі гэтай школы — даволі вядомыя людзі ў Беларусі. Няўжо тады былі лепшыя настаўнікі, чым сёння?***

— Найперш справа не толькі ў настаўніках, але ў саміх вучнях. Я лічу, што тады ішлі вучыцца тыя, хто хацеў. Бывала, прыйдзеш зімою ў клас, яшчэ цёмна, а ўжо сядзяць за партамі з Дзеравянчыц Дуброўскія, з Разанаўшчыны Барысікі, з Чамяроў Іван Чыгрын і іншыя хлопцы і дзяўчаты. Дый пытанні ў школе наконт дысцыпліны наогул не разглядаліся. Усе хацелі вучыцца, усе з вялікім задавальненнем слухалі кожнае слова таго ж Пятра Сцяпанавіча Закржэўскага і іншых настаўнікаў. І пасля школы яны ўсе паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

***— Які вам Слонім больш падабаецца: сённяшні ці дваццаць-трыццаць гадоў таму?***

— Пасля вайны Слонім быў у руінах. Я памятаю, як танкамі разбівалі сабор у цэнтры горада. А пасля на яго месцы пабудавалі павільён «Ветерок». Тым не менш, мне здаецца, што раней цэнтр горада заўсёды быў чыстым, а зімой яго ачышчалі ад снегу.

***— Людміла Антонаўна, вы ганарыцеся тым, што ваш бацька ў Слоніме быў вядомым доктарам, а родны брат — літаратарам?***

— Вельмі гэтым ганаруся. У бацькі было шмат сяброў, знаёмых. Ды і ў Алега Антонавіча таксама шмат сяброў было не толькі ў Беларусі, але і ў іншых дзяржавах.

Бацька наш быў маўклівым, а вось мама, як і я з Алегам, вельмі была гаваркая. Але бацька ўмеў выслухаць іншых людзей, не перабіваў іх ніколі. А пасля вельмі стрымана выказваў сваю думку. Але па ім было відаць, чым ён задаволены, а чым не. Алегам і яго творчасцю ён дужа ганарыўся. Але першым рэцэнзентам вершаў Алега была ўсё ж мама. Яна і завяла яго з вершамі да Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна, які станоўча ацаніў яго творы.

***— Людміла Антонаўна, вас яшчэ ведаюць як былую артыстку Слонімскага народнага тэатра...***

— Калі я вучылася ў першай школе, то ў нас быў свой тэатр, які ставіў розныя спектаклі па п'есах беларускіх і рускіх драматургаў. Там я таксама іграла. І калі прыехаў у Слонім Фрыдман, ён многіх запрасіў у народны тэатр. А пасля тэатрам стаў кіраваць рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Тэатр у той час наведвала ўсё тая ж Феафанія Ракевіч, якая мяне прывяла ў тэатр на ролю Альжбеты. Яна прапанавала Мікалаю Варвашэвічу: «Я іграю ў спектаклі «Паўлінка» Агату, але ў мяне ёсць сяброўка на ролю Альжбеты». І той пагадзіўся. Так я апынулася ў тэатры.

***— Людміла Антонаўна: на вашу думку, які лёс чакае наш народ і нашу дзяржаву?***

— Раней я была ўжо зусім зняверылася ў светлай будучыні нашай краіны. Таму што старэйшае пакаленне беларусаў зусім не ведае сваёй гісторыі, дый не цікавіцца ёю. Яны так і кажуць: «А навошта нам гэта! Абы каўбаса была танная...» Але цяпер многія размаўляюць на трасянцы з матамі, і каўбасы таннай няма. І ў гэтым амаль усе пераканаліся. Мне некалі па-беларуску слова не давалі сказаць — заўсёды пярэчылі. А цяпер — не. Цяпер людзі пачынаюць разумець, што каўбасой шчаслівымі краіну і людзей не зробіш. Ды і моладзь у школах ужо па-іншаму глядзіць на сённяшні час. Яна з павагаю ставіцца да сваёй гісторыі, мовы, народных традыцый і святаў. Вырастае новае пакаленне. І яно, верыцца мне, адродзіць нашу дзяржаву.

ВЫСТАВА

# КАРАЛЕЎСКІЯ СКАРБЫ

Аляксей ХАДЫКА

**13 жніўня 2012 года ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная адкрыццю выставы «Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600–1800» з калекцыі Музея Вікторыі і Альберта (Лондан).**



Цяжка пералічыць усе складанасці, якія давялося пераадолець спецыялістам на шляху падрыхтоўкі знакавай экспазіцыі: паказваць гістарычныя каштоўнасці з заходнееўрапейскіх музеяў у суверэннай Беларусі будуць упершыню.

Па стандартах, нават вітрыннае шкло на выставе, якое ў Беларусі мае таўшчыню 6 міліметраў, брытанцы патрабуюць рабіць не менш за 11. Плюс клімат-кантроль — сёння беларускія музейшчыкі з гонарам дэкларуюць, што яны наблізіліся да сусветных стандартаў аснашчэння экспазіцыі.

«Музей Вікторыі і Альберта, які ў гэтым годзе адзначае 160-гадовы юбілей, належыць да першага шэрагу музейных устаноў у свеце, параўнаць яго можна хіба з піцерскім Эрмітажам», — адзначыла намеснік дырэктара Мастацкага музею Надзея Усава. Таму і кошты для наведнікаў экспазіцыі, якая адчыняецца ў Мінску 15 жніўня ў 18 гадзін і будзе даступная па 4 лістапада, — досыць высокія: 50 тысяч рублёў для дарослых, 25 тысяч — для дзяцей і 120 тысяч — так званы сямейны квіток, які дазволіць правесці да трох дзетак. У Нясвіжы, дзе лонданская экспанаты стануць даступныя з 16 жніўня, кошты ніжэйшыя — 20 і 10 тысяч.

З Брытаніі прыехалі 83 экспанаты: 49 з іх, пераважна жывапіс і скульптура, размясціліся ў Мінску, 34 — творы дробнай пластыкі, ужытковага мастацтва, аксесуары — у «Залатой зале» Нясвіжскага палаца. Апошняя, нагадаем, толькі 20 ліпеня афіцыйна адчынілася для наведвання, і зараз гатовая прыняць гледачоў шэдэўрамі, вартымі колішніх гаспадароў палаца князёў Радзівілаў, якія стагоддзямі збіралі падобныя творы, сёння расцярушаныя па-за межамі Беларусі па шматлікіх зборах. У тым самым Музеі Вікторыі і Альберта захоўваецца некалькі даспехаў XVI стагоддзя з нясвіжскай збраёўні, праўда, на гэтую выставу яны не прыехалі.

Паколькі Музей Вікторыі і Альберта нарадзіўся ў выніку правядзення прамысловай Сусветнай выставы ў Лондане 1851 года і адразу быў накіраваны на збіранне прадметаў побыту, дызайнерскага і дэкаратыўнага мастацтва, экспазіцыі ў Беларусі пабудаваныя па тэматычным прынцыпе, які адлюстроўвае важныя аспекты прыдворнага жыцця Еўропы. «Каралеўскае апякунства» паказвае гісторыю ключавых асоб каралеўскіх двароў, якія вызначыліся мецэнацкай дзейнасцю паміж 1600 і 1800 гадамі. «Магутнасць і слава» — даспехі і зброя, батальныя творы, звязаныя з вайсковай гісторыяй. Іншыя накірункі — «Рэлігійная веліч» (прадметы публічнага і асабістага рэлігійнага ўжытку), «Мода і асабістыя ўпрыгожванні», нарэшце, «Выстава ў інтэр'еры» — мэбля, тэкстыль, побытавыя рэчы, якія фармавалі асяроддзе ў каралеўскіх палатах і арыстакратычных інтэр'ерах. Усе прадметы экспазіцыі — унікальныя, не выпадкова лонданскі музей займае 14-е месца па наведвальнасці сярод музеяў свету — каля 3 мільёнаў візіцёраў на год.

Усе экспанаты — не проста знакі гісторыі, а творы ювелірнага, злотніцкага, разьбярскага, кравецкага мастацтва. Паасобным шэдэўрам тэлебачанне запланавала прысвяціць спецыяльныя нарысы на БТ.

Выставачны праект сусветнага ўзроўню, які звычайна рыхтуецца больш за два гады, беларусы здолелі ажыццявіць ва ўдвая карацейшы тэрмін. Усё пачалося з візіту ў брытанскі музей з адпаведнымі прапановамі беларускага амбасадара ў Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі Аляксандра Міхневіча ўвосень мінулага года. Якія творы з сотні першапачаткова адабраных



для сусветнага туру прыедуць у Беларусь, і што з іх размесціцца ў Мінску, а што ў Нясвіжы — беларусы дэталёва абмяркоўвалі разам з брытанцамі.

Далей працавалі дыпламаты, юрысты, эканамісты, супрацоўнікі музеяў, спонсары. На апошніх, на чале якіх ВА «Мінскі трактарны завод» і АТ «Мінскі аўтазавод», усклалі транспартныя выдаткі і страхавыя плацяжы (51 тысяча долараў). У астатнім — дзякуючы якасці экспанатаў праект акупіцца — разлічваюць арганізатары.

Універсальная мова мастацтва, якая не патрабуе перакладу, адчыніла Беларусі шлях супрацоўніцтва са слынным брытанскім музеем. Магчыма, рух па ім будзе двухбаковы: лонданскі куратар праекта Эліс Лоб адзначыла свае добрыя ўражанні ад сучаснай беларускай мастацкай школы, у прыватнасці, жывапісу Валерыя Шкарыбы і твораў графікі.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81. novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 801

Падпісана да друку 17.08.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.